НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 6 (891) 11 лютага 2015 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднођленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



# Ніхто не ведае, што думае Пуцін



Старонка 2.

REUTERS

## Беларусы на перадавой

Як выяўляецца, ва Украіне ваюе больш беларусаў, чым мы раней меркавалі. І гэта, што б хто ні казаў, знак часу.

Ёсць інфармацыя, што 10 беларусаў ваюе ў батальёне «Азоў», мінімум чацвёра — у батальёне «Данбас». Ёсць яшчэ атрад «Пагоня». Як можна меркаваць па абрыўках інфармацыі, ёсць беларусы і ў іншых украінскіх падраздзяленнях. Пра гэта дазналіся толькі тады, калі стала вядома пра раненне аднаго з іх — хлопца з Брэста.

Здаецца, пакуль толькі адзін беларус загінуў — гэта ўраджэнец Навагрудка Васіль Ганчарэнка. Гэты сапёр палёг у Ілавайску. Мы высвятляем, ці быў ён грамадзянінам РБ, ці толькі родам з Беларусі.

Ёсць беларусы і на баку ДНР, на баку «рускага свету». Гэтыя вераць у імперыю, ваююць за Расію.

Так, канфлікт ва Украіне перарос у геапалітычны. Але хлопцы, якія ўзяліся за аўтаматы, лічаць, што мір магчымы толькі тады, калі ёсць нехта, хто супраціўляецца агрэсару, хто супраціўляецца імперыі.

Гутаркі з беларусам, які пабываў у ДНРаўскім палоне, і з 19-гадовым фанатам мінскага «Дынама», які паехаў ваяваць, — на **старонцы 6**.



**Гэтае фота змешчана на старонцы «Згуртаванне патрыётаў» у фэйсбуку. Яе вядуць беларусы, што ваююць на баку Украіны. Подпіс пад фота: «Перад рэйдам на Данецк. Было горача. Штурмавая задачу выканала».**

# Ніхто не ведае, што думае Пуцін

Калі Вы прачытаеце гэты артыкул, Вы будзеце ведаць вынік Мінскага саміта.

Або ведаць толькі пра надводную частку айсберга. Але пра падводную частку мінскіх перамоваў можна здагадацца з паведамленняў з Мюнхена. Я маю на ўвазе не гістарычныя паралелі з 1938 годам, а міжнародную канферэнцыю, што адбылася ў цэнтры Баварыі на мінулых выхадных.

Пасля яе выразна стомленая канцлерка Германіі Ангела Меркель у нядзелю паляцела на сустрэчу з Абамам у Вашынгтон. Перад тым яна нечакана, узяўшы з сабой Аляндa, у чацвер адправілася ў Кіеў, а ў пятніцу — у Маскву.

Вось ужо амаль год, як ва Украіне праліваецца кроў. Расія пасылае туды зброю і спецназаўцаў. У той жа час за цэлы год ЗША і краіны Еўрасаюза так і не распачалі пастаўк зброі ва Украіну. (Гэта не перашкодзіла Пуціну назваць украінскую армію «натаўскім легіёнам». А расійскіх «зялёных чалавечкаў», вядома ж, не было.)

Цяпер гэтае пытанне стала асноўным у заходніх сталіцах: пастаўляць ці не пастаўляць зброю Украіне. Менавіта пра гэта гаварылі ў Мюнхене, дзе сабраліся кіраўнікі краін Захаду і ўсходу.



Меркель выказвалася гранічна адкрыта, хоць гэта і неўласціва яе някідкаму стылю. «Я не магу ўявіць сабе сітуацыю, калі Украіна стане настолькі добра ўзброеная, што Пуцін будзе думаць, што ён можа прайграць», — сказала яна. Урэшце, сказала яна, ЗША ж не ваявалі за ўз'яднанне Германіі пасля Другой сусветнай. Раз бо Кіеў не можа перамагчы ў вайне з Расіяй, то лепш пагадзіцца на часовыя межы, зберагчы жыцці людзей і захаваць веру ў больш справядлівую будучыню.

Ад Меркель, гэтай сціплай, як для палітыка, жанчыны, залежыць многае.

Асцярожны Абама хоча, каб пытанне пастаўкі зброі рашала яна. Ягоны віцэ-прэзідэнт Байдэн сказаў у суботу: «Паспрабаваць дасягнуць ганаровага міру мы павінны, але ўкраінцы маюць права абараняцца».

Рэспубліканцы, якія маюць большасць у Кангрэсе, традыцыйна настроеныя ў духу Рэйгана: імперыі зла трэба супрацьстаяць любымі даступнымі сродкамі.

Уплывовы сенатар Грэм у Мюнхене сказаў: «У Маскву можна ездзіць да пасінення». І заклікаў: «Уздыміцеся супраць брахні і небяспекі».

Кіраўнік амерыканскімі сіламі ў Еўропе генерал Фрэдэрык Ходжэс заявіў у інтэрв'ю «Уол-стрыт джорнал» у суботу, што, па ягоных ацэнках, Расія рыхтуецца да вялікай вайны «з некім» праз пяць-шэсць гадоў.

Мінск стаў месцам, дзе вайну хочуць прадухіліць. Хтосьці хоча, а хтосьці, магчыма, хоча проста выгадаць лепшыя пазіцыі для вырашальнага ўдару.

Хтосьці параўноўвае Мінск з Ялтай 1945 года, хтосьці — з Мюнхенам 1938-га. Меркель не мае ілюзій, якія меў Чэмберлен. Яна хоча выйсці з сітуацыі без вайны. Але, на жаль, адзіны, хто вырашыць, чым стануць мінскія перамовы — гэта Пуцін. Усе ведаюць, што думаюць заходнія лідары, але ніхто не ведае, што думае Пуцін.

Мір магчымы толькі тады, калі яго хочуць два бакі. Для вайны дастаткова волі аднаго.

**Мікола Бугай**

# Расійскія сілы замкнулі Дэбальцаўскі кацёл

Пасля двух тыдняў баёў расійскія сілы выйшлі на трасу Дэбальцава— Арцёмаўск. Такім чынам, перарэзаны шлях забеспячэння ўкраінскага гарнізона ў Дэбальцаве.

Гэта здарылася ў раёне Логвінава і Ласкутоўкі. Працягваюцца вялікія баі, з абодвух бакоў ёсць страты ў бранятэхніцы.

Інфармацыю пра перарэзаную трасу на сваёй старонцы ў Фэйсбуку пацвердзіў камбат добраахвотніцкага батальёна «Данбас» Сямён Сяменчанка.

Украінскія камандзіры высвятляюць адносіны ў Фэйсбуку: «Па-нармальнаму, штабных мудакоў, што праспалі ўваход праціўніка ў Ласкутоўку а 6.00 і пачалі цяліцца толькі пасля абеду, трэба расстраляць. Асобная размова пра нашы танкі, што раптоўна ламаюцца. Карацей. Сепары ў Ласкутоўцы перарэзалі трасу. ВСУ і процідыверсійная група «Данбаса» адышлі на выхадных. Астатняе — не для ФБ. Стратэгі, вашу маць!» — экспрэсіўна адзначыў Сяменчанка.



**Украінскі танк, падбіты расійскімі сіламі. Фота з Фэйсбука ўкраінскага лейтэнанта Аляксея Чабана, які ваюе ў раёне Дэбальцава.**

Цяжка сказаць, ці ўкраінскія войскі маюць стратэгію прарыву акружэння. Дакладна невядома таксама, колькі ўкраінскіх байцоў знаходзіцца ў Дэбальцаве — значным чыгуначным вузле між Данецкам і Луганскам. Каб адцягнуць сілы праціўніка, украінцы арганізавалі невялікі контрнаступ пад Марыупалем.

У аўторак батальён «Азоў», у якім ваюе і 10 беларусаў, адбіў у баевікоў населеныя пункты Камінтэрнава і Шырокіна.

Але і тут выявіліся супярэчнасці: «Некаторыя сумежныя падраздзяленні спецназа, не будзем удакладняць якія, пакінулі поле бою яшчэ да пачатку актыўных баявых дзеянняў. тым не менш наступ працягвaецца», — гаворыцца ў паведамленні «Азова».

У аўторак расійскія сілы нанеслі ракетны ўдар па горадзе Краматорск, дзе месціцца штаб украінскай групіроўкі. Ракеты ўпалі як на аэрадром, так і на жылыя кварталы. У выніку загінулі па меншай меры 11 чалавек, дзясяткі паранены.

Такая інфармацыя з Украіны, на жаль, перастварылася ў будзённую.

**Сяргей Гезгала**

## Уладзімір Навіцкі зноў каментуе хакей па-беларуску



Матч чэмпіянату КХЛ «Дынама» Мінск — «Трактар» (2:4) на тэлеканале «Беларусь-5» Уладзімір Навіцкі каментаваў па-беларуску.

На пачатку матча каментатар Уладзімір Навіцкі, які яшчэ трыццаць гадоў таму распрацоўваў беларускую спартовую тэрміналогію, з радасцю адзначыў, што мова вяртаецца ў хакейныя рэпартажы праз шмат-шмат гадоў адсутнасці.

«Пасля працяглага перапынку ў эфір трансляцыя пойдзе на беларускай мове. Добра разумею, што пасля гэтай трансляцыі ў шалёнай ступені павялічыцца колькасць «знаўцаў» беларускай мовы, якія два словы разам звязаць не могуць. Але разумею, што гэта трэба, і выклікаю агонь на сябе».

Кіраўнік прэс-службы хакейнага клуба «Дынама-Мінск» Раман Стронгін распавёў Еўрарадыё, што каманда ўхваляе ідэю весці матчы па-беларуску, хоць і не з'яўляецца ініцыятарам: «Мы заўжды ўхваляем выкарыстанне беларускай мовы, выкарыстоўваем яе ў нашай працы».

**Еўрарадыё**

## Апытанні на nn.by

**Ці падтрымліваеце Вы забарону на продаж алкаголю асобам да 21 года?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 896 | 78% |
| Не | 158 | 14% |
| Цяжка сказаць | 90 | 8% |

Усяго прагаласавала 1144

## Самае чытанае на nn.by за 4—10 лютага

1. Пад Папаснай украінцы ўзялі ў палон баевіка-беларуса
2. Беларусы пра Пуціна: «Гадзюка на літару Х»
3. Феерычныя тлумачэнні Паўла Губарава, што такое Данбас, сталі хітом інтэрнэту
4. 19-гадовы беларус з «Азова»: Чым слабейшая стане Расія, тым лягчэй будзе Беларусі
5. У Беларусі з'явіўся падатак на пазычаныя грошы
6. Як беларус вырашыў ажаніцца з выканаўцай ролі Алісы Селязнёвай. І ажаніўся
7. Знішчаныя расійскія танкі каля Вугляграска
8. Ехаў у Магадан: Паляк праехаў праз усю Расію — і зняў усё на камеру
9. На плошчы Незалежнасці спецназ дзяжурыць у чаканні акцыі пратэсту грузаперавозчыкаў
10. Hvilina выпусціць наручныя гадзіннікі ў нацыянальным стылі

# Што мінчукі думаюць пра Пуціна?

«Наша Ніва» распытала выпадковых людзей аб прэзідэнце Расіі



Вельмі пагана думаю, ён паскуда. Я б сказаў, ён гадзюка на літару «Х», якім яго ўсе лічаць, увесь свет нармальны, цывілізаваны.



Я не ведаю чаму Пуцін так на Беларусь агрэсіўна настроены. Мы ж родныя людзі — беларусы і расіяне.



Магчыма, ён жарэ нейкае жорскае ЛСД, калі ён паводзіць сабе так нецывілізавана. Ён думае, што робіць нейкую добрую справу, але так думае толькі ён. Пуцін будуе зомбі-сістэму ў сваёй краіне



Станоўча да яго ставімся, аніякіх прэтэнзій у нас да яго няма. Усё добра.



Усё акупавана даўно. Палітыка — гэта справа брудная. Вайну нельга весці ва Украіне.



У мяне ёсць знаёмыя, якія лічаць што яго палітыка адносна Украіны надта агрэсіўная



Я з Амерыкі. Некаторыя лічаць яго моцным лідарам. Ведаеце, ён робіць, што кажа, і кажа, што робіць. Але я разумею, што ён кепска ўплывае на свет, ён не «воін дабра». Мне здаецца, у яго краіне меркаванне вельмі пазітыўнае. А дрэнна тое, што ён перакройвае еўрапейскі парадак, які ўсталяваўся пасля вайны. Немагчыма прадказаць, куды гэта прывядзе.



Я ацэньваю яго палітыку, яго прыватна і яго кіраўніцтва, стаўленне Расіі да Беларусі не заўжды адэкватна. Я лічу, што яго асобу часам дэманізуюць. Не можа адзін чалавек, нават такой вялікай дзяржавы, як Расія, з'яўляцца пагрозай страшнай для ўсяго свету, і потым, у чым пагроза? Калі зараз па RTVI я гляджу ўсе перадачы, там таксама дэманізуюць асобу Пуціна. І кажуць, што ён у турму сядзе і дыктатар. Я катэгарычна з гэтым не згодны.



Сябры, добрыя хлопцы жывуць у Расеі, але хацелася б забыць гэтую краіну, трошачку. У 2015 годзе такія імперскія амбіцыі — гэта дзікунства.

Да Уладзіміра Пуціна з павагай стаўлюся.



Я да гэтай тэмы палітычнай не хачу мець дачынення.



Пуцін, памойму, найбольш спелы кіраўнік, які з'явіўся за апошні час на палітычным гарызонце.



А чаго ён лезе? Украінцы самы разбяруцца ў сябе. Навошта гэтыя фокусы са сваімі вайскоўцамі, зброяй? Што ён туды пастаўляе? Брацкі народ... Вось зараз я быў на выставе дзіцячага малюнка з Данецка. Паглядзеў і страшна стала.

**Апыталі Мікіта Недаверкаў і Ірына Арахоўская**

## На канферэнцыі ў Мюнхене абсмяялі расійскага міністра Лаўрова

Выступ кіраўніка МЗС на Міжнароднай канферэнцыі па бяспецы ў Мюнхене **скончыўся скандалам**.

Дэлегаты з шэрагу заходніх краін адрэагавалі на яго прамову гучнымі кпінамі і выкрыкамі, піша «Коммерсант».

Да Сяргея Лаўрова на канферэнцыі ў Мюнхене выступала Ангела Меркель: гаворку канцлера ФРГ шэсць разоў перапынялі бурнымі апладысментамі. Гучней за ўсіх удзельнікі форуму пляскалі, калі яна павітала прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнку, які сядзеў у першым шэрагу.

Кіраўнік МЗС РФ пачаў свой выступ з канстатацыі таго, што «падзеі апошняга года пацвердзілі справядлівасць папярэджанняў Расіі адносна наяўнасці глыбокіх, сістэмных праблем у арганізацыі еўрапейскай бяспекі і ў міжнародных адносінах у цэлым». «Канструкцыя стабільнасці, якая абапіраецца на Статут ААН і Хельсінскія прынцыпы, даўно падарваная дзеяннямі ЗША і іх саюзнікаў у Югаславіі, Іраку і Лівіі, пашырэннем НАТА на Усход, стварэннем новых ліній падзелу, —абвясціў Сяргей Лаўроў. — Праект пабудовы «агульнаеўрапейскага дома» не адбыўся менавіта таму, што нашы партнёры на Захадзе кіраваліся не інтарэсамі ўзвядзення адкрытай архітэктуры бяспекі пры ўзаемнай павазе інтарэсаў, а ілюзіямі і перакананнямі перапераможцаў у халоднай вайне».

Пры канцы сваёй прамовы расійскі міністр падкрэсліў, што ўкраінскі крызіс «не можа быць урэгуляваны з дапамогай ваеннай сілы», і выказаў надзею, што перамовы, якія адбыліся ў пятніцу ў Маскве з удзелам прэзідэнтаў РФ і Францыі, а таксама канцлера ФРГ прынясуць вынік. «Ёсць усе магчымасці дасягнуць вынікаў і ўзгадніць рэкамендацыі, якія дазволяць бакам рэальна развязаць гэты канфліктны вузел», — сказаў Сяргей Лаўроў.

Далей удзельнікам канферэнцыі далі магчымасць задаць расійскаму госцю некалькі пытанняў. І тут здарыўся скандал. Словы ўзяў старшыня Камітэта Еўрапарламента па замежнай палітыцы Эльмар Брок, які заявіў, што, далучыўшы Крым, Расія парушыла ключавыя міжнародныя нормы. Сяргей Лаўроў адказаў, што ў Крыме ўсё адбылося ў адпаведнасці са Статутам ААН. «У Статуце ААН ёсць некалькі прынцыпаў, і права нацый на самавызначэнне стаіць на ключавым месцы, а тэрытарыяльная цэласнасць, суверэнітэт абавязаны паважацца», — сказаў міністр. У гэты момант Эльмар Брок і многія іншыя дэлегаты з заходніх краін пачалі гучна смяяцца, суправаджаючы кпіны з'едлівымі каментарамі. Сярод удзельнікаў канферэнцыі — больш за 20 кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў і каля 60 міністраў замежных спраў і абароны.

Сяргей Лаўроў адрэагаваў стрымана: звяртаючыся да Эльмара Брока, ён сказаў, што калі той задаваў сваё пытанне, яму таксама было смешна, але ён «стрымаўся».

## Былы начальнік Фрунзенскага РУУС з'ехаў служыць у «ДНР»?

Галоўная рэдактарка сайта «Хартыя-97» Наталля Радзіна змясціла ў сваім фэйсбуку ліст, які атрымала рэдакцыя:



**Алег Коваль справа.**

«Ходзяць размовы, што начальнік Фрунзенскага РУУС Мінска Коваль Алег Мікалаевіч, атрымаўшы вымову, быў выкліканы да міністра Шуневіча. Па выкліку не з'явіўся. Дома і на працы не аб'яўляўся. Жонка сказала, што ён сабраў заплечнік і з'ехаў у Краснадар, адтуль у Растоў. І цяпер ваюе на баку ДНР».

Сапраўды, да нядаўняга часу Алег Коваль узначальваў Фрунзенскі аддзел міліцыі Мінска, пару месяцаў назад яго знялі з пасады і прызначылі на яе Андрэя Любімава.

Мабільны тэлефон Алега Коваля недасяжны. Прычым, наколькі нам стала вядома, ужо даволі працяглы час. «Наша Ніва» патэлефанавала дадому Алегу Ковалю, каб абвергнуць ці пацвердзіць інфармацыю.

Сын міліцэйскага начальніка пацвердзіў, што бацькі няма дома. Дакладней, што дома ён даўно не з'яўляўся. Ён не даў адказу на пытанне, калі ён будзе дома. Ці праўда, што Алег Коваль паехаў ваяваць у «ДНР», спыталіся мы. «Гэта нейкі анекдот. Канечне, не», — адказаў сын.

Таксама «Наша Ніва» патэлефанавала папярэдніку Коваля на пасадзе начальніка Фрунзенскага РУУС, намесніку старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Алегу Гайдукевічу.

«Так, я ведаю, што ў яго былі праблемы. Але ў мяне няма такой інфармацыі пра ад'езд. Спадзяюся, што гэта няпраўда. Беларусь столькі робіць для ўрэгулявання канфлікту, а ён едзе ваяваць. Лепш бы грошы на падтрымку «Логвінава» перавёў», — адзначыў сп.Гайдукевіч.

**Зміцер Панкавец**

## Расійскія ўлады спешна рамантуюць пад'езд дома, дзе жыве Святлана Давыдава



Давыдава з дзецьмі.

Маці сямі дзяцей з Вязьмы (Смаленская вобласць) Святлана Давыдава была абвінавачаная ў здрадзе радзіме за тое, што ў красавіку мінулага года патэлефанавала ў пасольства Украіны ў Расіі і расказала мясцовы сакрэт палішынэля.

Тамтэйшая часць спецназа Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Генштаба Расіі апусцела, яе байцоў адправілі ў Данбас.

Аднак ФСБ, арыштаваўшы Давыдаву, не разлічыла, што выпадак выставіць расійскія ўлады ў няправільным святле. Расійскіх жа салдат у Данбасе «няма і не было», а таму якая можа быць здрада радзіме? Давыдаву вызвалілі пад падпіску. А ЖКГ тэрмінова паслала ў дом Давыдавай рамонтнікаў, паведамляюць расійскія СМІ. Так у Вязьме рыхтуюцца сустрэць замежных карэспандэнтаў.

Ну, не дарма званіла, — жартуюць расійскія інтэрнаўты, калі рамонт пачалі датэрмінова.

**Сяргей Гезгала**

**Фотафакт**



**Як выглядае Надзея Саўчанка пасля 60 дзён галадоўкі**

Журналісты апублікавалі ў сетцы фота Надзеі Саўчанка, якую прывезлі ў аўторак на пасяджэнне суда ў Маскве. Яна галадае 60 дзён у расійскай турме. Саўчанка — украінская лётчыца, якую выдалі Расіі баевікі з «ЛНР». У Расіі Саўчанка абвінавачваюць у забойстве расійскіх журналістаў. У суд Саўчанка заўсёды прыходзіць у майцы з украінскім Трызубам.

Гісторыя жыцця **Васіля Мацюшэўскага**.

# Ва ўрадзе ўпершыню з'явіўся

Падчас прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі беларускім СМІ купка топ-чыноўнікаў сядзела ў першых шэрагах вялізнай залы Палаца незалежнасці. Большасць з іх страчылі ў блакноты цытаты кіраўніка краіны, іншыя насцярожана чакалі, пакуль ім давядзецца трымаць адказ. На іх фоне ўпэўненасцю, спакоем і ледзь заўважнай усмешкай вылучаўся падцягнуты мужчына ў стылёвым гарнітуры.

Першы віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі нагадваў заходняга топ-менеджара. Зрэшты, на пазіцыю антыкрызіснага кіраўніка Мацюшэўскага і паклікалі паўтара месяца таму.

У цэлым пазіцыі першага віцэ-прэм'ера выглядаюць выйгрышна. Сярод топ-чыноўнікаў мала хто можа пахваліцца веданнем замежных моваў. У Мацюшэўскага ж — дасканалая англійская.

Што да заходняй адукацыі, то ва ўрадзе толькі Уладзімір Макей навучаўся ў дыпламатычнай акадэміі Аўстрыі. Але Лонданская бізнэс-школа, якую некалькі гадоў таму скончыў Мацюшэўскі, — гэта якасна іншы ўзровень.

Па меркаванні Financial Times, універсітэт уваходзіць у тройку найлепшых бізнэс-школ у свеце. Тут сабраная эліта — сярэдні заробак выпускнікоў перавышае $13 тысяч за месяц. Навучанне ў Лондане каштуе ад $95 тысяч. Грошы за Мацюшэўскага плаціў «БПС-Сбербанк», які тады ўзначальваў фінансіст.

### Выдатнік з ускраіны Оршы

З маці першага віцэ-прэм'ера сустракаемся на ганку дома на ўскраіне Оршы. Фармальна гэта яшчэ горад, але з выгляду — сапраўдная вёска. Раней мясцовыя гараджане трымалі вялікія гаспадаркі. У Мацюшэўскіх былі куры і свінні, а ў суседзяў нават каровы.

Марыя Дзмітрыеўна працавала на Аршанскім заводзе сілікатных вырабаў (цяпер «Оршабудматэрыялы»), цяпер на пенсіі. Сама яна паходзіць з Аршанскага раёна.

Яе муж Станіслаў памёр некалькі гадоў таму. У Оршы ён узначальваў транспартную спецбазу. Ягоны род ідзе з Круглянскага раёна, але сапраўднае прозвішча продкаў чыноўніка — Бяззубікі. Дзед пабраўся шлюбам з Мацюшэўскай, ды перайшоў на яе больш мілагучнае, як яму падавалася, прозвішча.

У сям'і было двое дзяцей, але дачку-медыка жыццё закінула далёка ад бацькоўскага дома. Яна працуе ў Петрапаўлаўску-Камчацкім.

**Васіль Мацюшэўскі**

Нарадзіўся 26 сакавіка 1969 у Оршы. Скончыў эканамічны факультэт БДУ (1991), аспірантуру Інстытута эканомікі Акадэміі навук (1994), Лонданскую школу бізнэсу (2012). Кандыдат эканамічных навук.

У 1991—1992 — начальнік аддзела ў НПА «Фенікс», у 1992 — навуковы супрацоўнік НДІ эканомікі Дзяржэканамплана Беларусі, у 1992—1994 — трэці сакратар Міністэрства замежных спраў.

У 1994—1997, 1998—2010 — галоўны эканаміст, намеснік начальніка ўпраўлення, дырэктар дэпартамента, намеснік старшыні Нацбанка.

У 1997—1998 — дарадца міністра фінансаў.

У 2010—2014 — старшыня праўлення «БПС-Сбербанка».

З 2014 — першы віцэ-прэм'ер Беларусі.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Сын хацеў забраць маці да сябе ў Мінск, але яна вырашыла не ехаць, пакуль здароўе дазваляе даглядаць аршанскі дом. Даводзіцца абмяжоўвацца размовамі па мабільным. У Марыі Дзмітрыеўны з Васілём традыцыя: яны стэлефаноўваюцца двойчы на дзень — раніцай і вечарам.

Жанчына запрашае зайсці, паказвае, што жыве сціпла. У хаце дагледжана, за шклом расстаўленыя фатаграфіі дзяцей і ўнукаў.

Па здымках з матчынага архіва можна адсачыць усё жыццё сына — ад фота з першай настаўніцай да газетных публікацый пасля прызначэння ва ўрад.

Яна дазваляе перазняць не кожнае фота: «Вось гэтае не трэба, а то Вася сварыцца будзе!»

«Як быў маленькі, яго звалі «Васіль Іваныч», як Чапаева. А найлепшага сябра нараклі «Пецькам», хоць насамрэч ён быў Сяргеем», — узгадвае Марыя Дзмітрыеўна.

«Вось падзякі і пахвальныя граматы. Паглядзіце, за кожны клас, ад другога і да апошняга. Я ўсё берагу, — дастае яна тэчку. — А гэта Васеў залаты медаль. І яшчэ атэстаты, за восьмы і за дзясяты клас». Мацюшэўскі быў выдатнікам, у дакументах няма ніводнай «чацвёркі».

«А які акуратны, аж педант! Такіх больш няма. Як прыйдзе са школы, туфлі здымае, пасля пачысціць, касцюм у шафу павесіць», — расказвае маці.

«Вася вельмі ўтойлівы. У дзеда пайшоў. Ён ніколі нічога не гаворыць і нічым не хваліцца. Гэта нявестка можа мне што-небудзь намякнуць, а Вася — не», — заканчвае яна псіхалагічны партрэт сына.



АТЭСТАТ

«Залаты» атэстат дзесяцікласніка.



Піянер Вася...



...і выпускнік Васіль.



Банкір кардынальна змяніў імідж. Фота пачатку 2000-х.

### Замест вайскоўца — эканаміст

Васіль з маленства марыў стаць вайскоўцам, але па стане здароўя ідэі давялося адрачыся. З віцебскага ўніверсітэта ў аршанскую школу №3, якую скончыў Мацюшэўскі, прыслалі тры накіраванні: на гістарычны, эканамічны і філасофскі факультэты. Настаўнікі прапанавалі выбраць сярод іх, і Васіль вырашыў паступаць на эканамічны. Але накіраванне... прапала. Марыя Дзмітрыеўна мяркуе, што ў Віцебску яго адклалі для кагосьці «са сваіх».

Тады вырашылі ўсё ж паступаць у сталіцу, на аддзяленне палітычнай эканоміі. Васілю, як залатому медалісту, трэ' было здаваць у БДУ толькі адзін экзамен — грамадазнаўства. «Ён усё вывучыў як ойча наш, на пяцёрку, і адстраляўся, — узгадвае маці. — Дзень-два прайшоў, а ён усё не вяртаецца. Мы неяк знайшлі яго ў Мінску, датэлефанаваліся, а Вася кажа: сяджу ў бібліятэцы».

Студэнцкае жыццё Мацюшэўскага было багатае на падзеі. «Кожны год Вася ездзіў у студэнцкія будаўнічыя атрады,

# топ-менеджар з еўрапейскай адукацыяй

зарабляў там грошы. Прывозіў мне, каб не патраціць, а я іх на ашчадную кніжку клала. Калі яму былі патрэбныя — прыязджаў да мяне і браў», — узгадвае маці. «Не згарэлі грошы ў 1991?» — «Ды не, толькі трошкі засталося, ён жа здымаў».

### Прафесарская сям'я

Падчас вучобы Васіль знайшоў сабе жонку. Алена Давыдзенка вучылася на палітычнай эканоміі на год пазней за яго.

Сям'я ў дзяўчыны была няпростая. Цесцем Мацюшэўскага стаў доктар эканамічных навук Леанід Давыдзенка. Ён пачынаў з выкладчыка палітычнай эканомікі ў БДУ, пасля ўзняўся па ўніверсітэцкай лесвіцы да прарэктара, а ў канцы 1990-х быў галоўным дарадцам у прэм'ер-міністра Сяргея Лінга. Цяпер Леанід Давыдзенка — загадчык кафедры эканомікі ў БДПУ імя Максіма Танка.

Першыя гады пасля вяселля Алена пазначалася ў дакументах як Мацюшэўская, але пасля зноў стала Давыдзенка.

Як і бацька, яна абрала для сябе навукова-выкладчыцкую кар'еру, працуе на факультэце міжнародных адносінаў БДУ. Кандыдацкая дысертацыя жонкі Мацюшэўскага была прысвечаная эфектыўнасці знешнеэканамічнай дзейнасці Беларусі на прыкладзе сувязяў з Расіяй. А некалькі гадоў таму яна стала доктарам эканамічных навук, даследаваўшы тэму «Замежнагандлёвая палітыка краін з малой адкрытай эканомікай ва ўмовах лібералізацыі міжнароднай гандлёвай сістэмы».

Фінансістам рыхтуецца стаць і сын першага віцэ-прэм'ера. Ян Мацюшэўскі сканчвае БДУ сёлета.

### Дыпламат і аспірант

Пасля заканчэння ўніверсітэта Васіль нейкі час папрацаваў у НПА «Фенікс», на пару месяцаў уладкаваўся ў навукова-даследчы інстытут пры Міністэрстве эканомікі (тады — Дзяржэканомплана Беларусі), а пасля апынуўся ў дыпламатычнай сферы.

Як Мацюшэўскі змог атрымаць працу ў Міністэрстве замежных спраў? Гэта быў час станаўлення беларускай дыпламатыі.

«У дыпламатыю ішлі людзі са шчырай ахвотай працаваць на сваю краіну, якая толькі што атрымала незалежнасць. Мы адчувалі, што сваёй сціплай працай ствараем гісторыю. ... Ва ўмовах маладой дзяржавы, калі ты быў на нешта здольны, можна было надзвычай хутка зрабіць кар'еру, — расказвала ў часопісе «Бізнэс-ледзі» цяперашняя намесніца міністра замежных спраў Алена Купчына, якая ў 1992-м прыйшла ў міністэрства з Інстытута філасофіі і права.

Мацюшэўскі працаваў у аддзеле міжнародных эканамічных адносін МЗС і адначасова вучыўся ў аспірантуры Інстытута эканомікі.

У 1995-м ён абараніў кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную асновам фарміравання замежнаэканамічнай палітыкі краіны. «Працэс пошуку свайё нішы на сусветным рынку, у пэўным сэнсе ўжо падзеленым, ... робіць непазбежным у доўгатэрміновым плане курс на рэінтэграцыі былых рэспублік Саюза і фарміраванне Эканамічнага саюза краін СНД», — падсумоўваў Мацюшэўскі. Разам з тым ён заклікаў да пераходу на рынкавую эканоміку і змяшчэння акцэнту з дзяржаўнага на прыватнае.

### 16 гадоў працы ў Нацбанку

На час абароны дысертацыі фінансіст перайшоў на працу ў Нацбанк. Там ён адпрацаваў 16 гадоў за выняткам кароткачасовай адлучкі ў Міністэрства фінансаў. Мацюшэўскі адказваў за валютнае рэгуляванне.

«Прывязванне беларускага рубля да расійскага пры ўмове падпісання дамовы аб стварэнні Мытнага саюза не ўяўляецца мэтазгодным... Тым не менш у больш аддаленай перспектыве магчыма рухомая «прывязка» беларускага рубля да кошыка цвёрдых валют», — прадказвалі ў 1998-м Васіль Мацюшэўскі з Аленай Давыдзенка ў супольнай кнізе. Гэтую стратэгію з цягам часу і абраў Нацбанк.

Іншай сферай адказнасці была міжнародная дзейнасць, у тым ліку супрацоўніцтва з Міжнародным валютным фондам.

Мацюшэўскі быў у падпарадкаванні ў будаўнікабанкіра Пятра Пракаповіча, але, па меркаванні экспертаў, менавіта намеснікі вызначалі фінансавую палітыку.



Сямейная рэліквія — у такім касцюме ў канцы 1980-х Мацюшэўскі працаваў у будаўнічых атрадах.

### Праца на расейцаў

Вясной 2010 года банкіра адпусцілі з дзяржаўнай службы. Мацюшэўскага паклікалі ў кіраўніцтва «БПС-банка». За некалькі месяцаў да таго фінансавая ўстанова перайшла пад кантроль «Сбербанка», які заплаціў беларускай дзяржаве $280 мільёнаў.

Замест параўнальна сціплага заробку дзяржаўнага служачага, Мацюшэўскі атрымаў узнагароджанне па шчодрых расійскіх стаўках. Паводле інфармацыі часопіса «Форбс», у 2012-м штомесячны даход старшыні праўлення «Сбербанка» Германа Грэфа складаў $1,25 мільёна. «БПС» апераваў іншым парадкам лічбаў, але заробкі былі вышэйшыя, чым у астатніх беларускіх банках.

Зрэшты, за некалькі гадоў кіраўніцтва Мацюшэўскага інвестыцыі расейцаў акупіліся, чысты прыбытак банка дасягнуў $100 мільёнаў за 2013 год.

**Чысты прыбытак «БПС-Сбербанка»**

2014* — $54,9 мільёна
2013 — $102,5 мільёна
2012 — $86,9 мільёна
2011 — $58,4 мільёна
2010 — $45,9 мільёна
2009 — $30 мільёнаў
2008 — $30,7 мільёна
*за тры кварталы года


Жонка Мацюшэўскага — доктар эканамічных навук Алена Давыдзенка.

Па словах маці банкіра, Васіля запрашалі пераязджаць у Расію на працу ў «Сбербанк», але той адмовіўся.

Знаёмыя Мацюшэўскага кажуць, што яму прапаноўвалі вярнуцца на дзяржаўную службу яшчэ ў 2011-м, калі падчас эканамічнага крызісу давялося шукаць тэрміновую замену захварэламу Пракаповічу. Аднак тады банкір нібыта здолеў адмовіцца ад прапановы, а Нацбанк даверылі Надзеі Ермаковай.

### Якія паўнамоцтвы ў чацвёртай асобы краіны?

А вось у канцы 2014-га давялося пагаджацца. Мацюшэўскі заняў пасаду першага віцэ-прэм'ера, пасунуўшы Уладзіміра Сямашку. Фактычна, ён увайшоў у дзясятку самых уплывовых людзей краіны. Вышэй толькі Аляксандр Лукашэнка і прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў, больш уплыў маюць хіба кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Косінец, сыны Лукашэнкі і кіраўнікі сілавых структур.

«Я так моцна перажывала, як даведалася пра прызначэнне, што дзве ночы заснуць не магла. Ці дасць рады ён гэтым справам?» — хвалюецца Марыя Дзмітрыеўна.

Пакуль сваёй стратэгіі рэформаў Мацюшэўскі не агучваў. Зрэшты, тыя змены, якія абяцаў Нацбанк — свабоднае курсаўтварэнне, захаванне залатавалютных рэзерваў і дэдаларызацыя эканомікі, — зацвярджаліся са згоды ўрада.

«Днямі я быў на круглым стале Нацбанка, у якім таксама браў удзел Мацюшэўскі. Мы займаем агульную пазіцыю па пытаннях, звязаных з манетарнай палітыкай, з развіццём эканомікі, з будучыняй дзяржаўнага інвестыцыйнага банка. Мне здаецца, гэта ўдалы і перспектыўны тандэм — старшыня Нацбанка Калаўр і першы віцэ-прэм'ер Мацюшэўскі, — разважае былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. — Думаю, яны будуць прапаноўваць пераход ад адміністрацыйна-каманднай мадэлі, якую Лукашэнка называе сацыяльна арыентаванай, да рынкавай, таксама сацыяльна арыентаванай. Варта паглядзець на Швецыю, Нарвегію, Фінляндыю, Германію. Але пытанне, ці здолеюць Мацюшэўскі з Калаўрам увасобіць у жыццё свае ідэі. Бо прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў прытрымліваецца іншых перакананняў — адміністратыўна-камандных».

Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН
У канцы 2000-х Мацюшэўскі і іншыя намеснікі Пракаповіча атрымалі зямлю пад будаўніцтва катэджаў непадалёку ад Драздоў.

# Беларус, які быў у палоне ў «ДНР»: Гэта было жорстка

Аляксандр Старавойтаў чатыры месяцы прабыў у палоне ў Данецку і Ілавайску. Перад Новым годам яго і іншых байцоў абмянялі. Цяпер ён узнаўляе сілы ў Кіеве.

**«Наша Ніва»: Аляксандр, якое дачыненне вы маеце да Беларусі?**

**Аляксандр Старавойтаў:** У мяне мама — беларуска, тата — беларус. Я нарадзіўся ў Ветцы Гомельскай вобласці. Праўда, ужо 22 гады жыву ва Украіне. Можна сказаць, што за гэты час «ахахліўся». Мама таксама жыве ва Украіне. Беларускія сваякі мяне не зусім разумеюць, яны навучаныя прапагандай, што мы — карнікі, фашысты. Сваякі па ўсёй Беларусі ёсць, яны не хочуць чуць мае довады.

**«НН»: А як вы аказаліся ў батальёне «Данбас»?**

**АС:** Ну як? Як усе. Добраахвотна. Не, гэта не раптоўна мне стукнула ў галаву. Пачалося ўсё яшчэ з Майдана. У той час я яшчэ сумняваўся, што рабіць, які бок прымаць. Нібыта ж Расія, наш братэрскі народ, не можа такога быць... Калі ж пачалі забіваць людзей, тады я зрабіў свой выбар, што не хачу жыць пры такім рэжыме, не хачу Савецкага Саюза. Гэта быў канец красавіка.

**«НН»: Ва ўкраінскіх СМІ я чытаў, што вы былі ў палоне ў «ДНР». Гэта праўда?**

**АС:** Канечне, быў. Нас разбілі ў жніўні пад Ілавайскам. Гэта быў жорсткі палон... Сапраўды, гэта было вельмі жорстка. Быў і холад, і голад. Гэта было сумна.

**«НН»: Здзекі былі?**

**АС:** А як вы думаеце?

**«НН»: Я думаю, што так.**

**АС:** Вось вы і далі правільны адказ на сваё пытанне. Я не хачу расказваць, што было менавіта. Няхай гэта застаецца на сумленні тых людзей, якія гэта рабілі з намі. Яна змагаюцца супраць «фашызму», як называюць нас, метадамі сапраўднага фашызму.

**«НН»: З якімі людзьмі вы сутыкнуліся на баку «ДНР»?**

**АС:** Розныя. Былі і ўкраінцы, і добраахвотнікі з Расіі, і расійскія вайскоўцы, і чачэнцы. Усіх было пакрыху. Калі спачатку там сапраўды былі людзі, што трымаліся ідэі, верылі, што Расія ім дапаможа, не кіне, то цяпер яны бачаць, што іх проста выкарыстоўваюць.

**«НН»: Беларусаў з боку «дэнээраўцаў» вы сустракалі?**

**АС:** Не. Расейцаў — так, украінцаў. Беларусаў, на шчасце ці на жаль, я не сустракаў. У «Данбасе» ж было некалькі беларусаў.

**«НН»: Дзе вас трымалі ў палоне?**

**АС:** Першыя паўтара месяца нас трымалі ў бамбасховішчы ў Данецку. Нас там было больш за сотню чалавек. Пасля нас падзялілі: 26 чалавек пакінулі ў Данецку, а 77 — перавялі ў Ілавайск. Адбудоўваць разбуранні. Разбіралі завалы, разміціравалі палі, падбіралі снарады, што не ўзарваліся. Я не магу сказаць, што там мне было камфортна, але стаўленне да чалавека ў Ілавайску былі непараўнальна лепшым, чым у Данецку. Там мы



прабылі 2,5 месяца. Пасля гэтага быў абмен, нас адвезлі дадому. Усе шчаслівыя, задаволеныя, жывыя.

**«НН»: Чаму ўтварыўся Ілавайскі кацёл, як гэта стала магчымым?**

**АС:** Я не ведаю... Для нас прыйшла каманда адыходзіць. Нам сказалі, што мы едзем дадому. Большасць хлопцаў уздыхнула з палёгкай. Многія нават не адзявалі бронекамізэлькі, нічога. А потым нас пачалі расстрэльваць. А стралялі не з аўтаматаў і пісталетаў, каб вы разумелі, а з танкаў і ракет. Завязаўся бой. Палегла шмат рускіх, маладых хлопцаў тэрміновай службы.

**«НН»: Чаму частка змагла выйсці, а частка засталася?**

**АС:** Усё было на ўдачу. Хтосьці не мог кінуць параненых таварышаў, хтосьці яшчэ нешта. Было шмат прычынаў, у кожнага свая праўда. Мы з нашым узводам селі ды абмеркавалі сітуацыю. Вырашылі, што мы з першых дзён былі разам, таму і адступаць будзем разам. Рускія прапанавалі ўмову, калі мы здаёмся ў палон, то яны аддаюць нашых параненых на ўкраінскую тэрыторыю.

**«НН»: Вы ўвесь час кажаце «рускія»...**

**АС:** Так, бо я бачыў іх дакументы, я размаўляў з імі. Я ведаю, што гэта была рэгулярная расійская армія. Мяне пераконваць у тым, што там няма рускіх, проста смешна.

**«НН»: Якую працу вы выконвалі ў «Данбасе»?**

**АС:** Я аўтаматчык. Звычайны шараговец. Выконваў тыя задачы, якія перада мной ставілася.

**«НН»: Шмат знаёмых страцілі на гэтай вайне?**

**АС:** Так, вельмі шмат. Былі забітыя ўсе мае камандзіры, некаторыя сябры. Гэта суровая рэальнасць. Ад гэтага, на жаль, нікуды не дзецца. Людзі паміраюць.

**«НН»: У вас былі думкі, што жывым ужо не вернецеся з фронту?**

**АС:** Пастаянна.

**«НН»: Чым цяпер займаецеся?**

**АС:** Збіраю дакументы на рэабілітацыю. Вяртаюся да жыцця. Мы атрымліваем статус удзельніка баявых дзеянняў, але яго не так лёгка атрымаць. Калі будзеш сядзець дома, то ясна, што ніхто не прыйдзе, каб табе прапанаваць гэты статус. Гэта дае нейкія зніжкі на камунальныя паслугі, на нешта яшчэ.

**«НН»: У Беларусь не збіраецеся заехаць бліжэйшым часам?**

**АС:** Апошні раз быў гады два таму. Хочацца, канечне, зноў з'ездзіць да сваякоў, сяброў, але я не магу. Шчыра кажучы, я крыху баюся ехаць. Па магчымасці я заўсёды сачу, што адбываецца там. Але цяжка знайсці аб'ектыўную ацэнку таго, што адбываецца ў Беларусі. Нешта хаваецца, нешта недагаворваецца. Свабоды слова ў Беларусі паменей, чым ва Украіне. Калі б КДБ — ці хто там? — даваў больш свабоды слова, то пра Беларусь больш ведалі. Можа быць, нават у нечым бы дапамаглі.

Гутарыў Зміцер Панкавец

## 19-гадовы беларус з «Азова»: Чым слабей Расія, тым лепш Беларусі

«Наша Ніва» пагутарыла з маладым беларусам, што цяперака ваюе ва Украіне ў шэрагах палка «Азоў». Былы футбольны фанат расказаў аб вайне, адносінах з бацькамі і планах на будучыню.

**«Наша Ніва»: Раскажы пра сабе?**

**Арцём:** Зваць мяне Арцём, я з Мінска, раней фанацеў за «Дынама» (Мінск). У Беларусі я паспеў скончыць вучэльню і з'ехаў на вайну, калі мне было яшчэ 18. Чарговы дзень нараджэння так і святкаваў — у акопе, з патронамі замест свечак у торце. А сябе я не хаваю, бо наш КДБ пра мне ведае ўсё — я ў гэтым пераканаўся.

**«НН»: Чаму ты паехаў ваяваць у іншую краіну?**

**А:** Крамлёўская ўлада — гэта мае ворагі. У маім разуменні яны вінныя за прыгнёт беларускай культуры на маёй радзіме. Чым больш Расія здае пазіцыі тут, тым больш абуджаюцца беларусы.

**«НН»: Як да твайго рашэння ставяцца бацькі?**

**А:** Адмоўна. Бацька яшчэ разумее, што я малады хлопец, што ў мяне кроў гарачая, а вось маці рэзка супраць. Яшчэ дадам сюды тое, што наш КДБ вельмі добра ў гэтым плане працуе — яны не цісніць на маіх бацькоў, але «грузяць» іх: маўляў, у вас кепскі сын, ён дрэнны чалавек.



**«НН»: Раскажы аб вайне.**

**А:** Баявыя дзеянні тут цякуць марудна, гэта акопная вайна. 90% часу —варта на блокпастах і трэніроўкі. Дзесьці ты заўважыў ворага — туды спрацавала нашая артылерыя, потым з тога боку прыляцела ў адказ, усе зашыліся ў акопы і думаюць: хутчэй бы гэта скончылася. Так і ваюем — сепаратыста ў прыцэл аўтамата я яшчэ не бачыў ні разу.

**«НН»: Ці шмат беларусаў ты сустракаў на гэтай вайне?**

**А:** Так, іх хапае. Толькі ў «Азове» — з дзясятак. Ёсць невялікія групы і ў іншых палках ды батальёнах.

**«НН»: Якія настроі ва ўкраінскім грамадстве? У прыватнасці ў Марыупалі, які абараняе «Азоў».**

**А:** Ваенны час, таму кожны хавае тое, аб чым ён насамрэч думае. Але некалькі месяцаў таму я часам яшчэ адчуваў варожасць, калі апранаў форму «Азова», то цяпер склалася іншае становішча — людзі просяць нікуды не сыходзіць, абараніць іх. Асабліва пасля таго, як у выніку абстрэлу сепаратыстамі Марыупаля пацярпелі мірныя грамадзяне.

**«НН»: Чым ты плануешся займацца пасля вайны? Ці вернешся ў Беларусь?**

**А:** У Беларусь я не паеду, бо цудоўна разумею, што тады мяне чакае альбо турма, альбо праца ў КДБ, чаго я не хачу.

Можа быць, буду ваяваць далей, у іншых рэгіёнах, ваяваць за дабро. Але не выключана, што замест мяне гаворыць мой юнацкі максімалізм, і нікуды я не паеду, а застануся ва Украіне і буду служыць у міліцыі, напрыклад. Я не ведаю. Ды і ўвогуле, у мяне тут ёсць дзяўчына, у нас усё сур'ёзна.

Гутарыў Арцём Гарбацэвіч

Фотафакт



Пад Папаснай украінцы ўзялі ў палон баевіка-беларуса. З ягоных словаў, ён «прыехаў абараняць сваю бабулю з Луганска».

# Кожнае другое новае аўто беларусы купілі ў Расіі




Самай папулярнай машынай зноў стаў **«Фальксваген Пола»**.

Беларускі аўтабізнэс падвёў вынікі 2014 года. Насельніцтва паставіла рэкорд, скупіўшы 50 тысяч новых машын. Але радасці ў аўтадылераў няма, бо выручка прайшла міма іх. У канцы года беларусы масава закупляліся машынамі ў суседняй Расіі, скарыстаўшыся абвалам тамтэйшай валюты. У выніку з тэрыторыі ўсходняй суседкі прыватнікі завезлі 25 тысяч новых аўто.

«Сітуацыя, у якой беларускі аўтабізнэс апынуўся ў цяперашні час, не мела раней прэцэдэнтаў па цяжкасці, — кажа кіраўнік Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі (БАА) Сяргей Міхневіч. — Якім чынам аўтабізнэс перажыве гэты крызіс, пакуль невядома. Мы хочам дагрукацца да ўрада і сказаць, што мы не ворагі эканоміцы нашай краіны, мы прыносім у краіну падаткі і эканомім валюту. Пакуль расійскія аўтадылеры «злівалі» склады, мы неслі велізарныя страты». Ён тлумачыць, што 30% ад цаны кожнага прададзенага аўто ідзе дзяржаве. Аўтадылеры за год пералічылі ў бюджэт каля $300 мільёнаў. Калі б спажыўцы набывалі аўто дома, а не ў Расіі, атрымалася б яшчэ больш. А выраўняць цэны перашкаджала не толькі дэвальвацыя ў Расіі, але і больш падатковы цяжар на беларускіх прадаўцоў у параўнанні з суседзямі.

Самай папулярнай машынай другі год запар застаецца найтаннейшы з «Фальксвагенаў». Дылеры прадалі 2247 «Пола» расійскай зборкі. Наступныя — «Кія Рыа» (1438) і «Рэно Сандэра» (1317). Ненашмат ад іх адстаў беларускі «Джылі SC7» (1238). Што да расійскіх мадэляў, то найлепшыя з «Ладаў» занялі месцы ў канцы першага дзясятка.

У рэйтынгу вытворцаў першынствавала французскае «Рэно». Агулам дылерам удалося прадаць больш за 4000 легкавікоў. Следам ідуць «Фальксваген» (2738) і карэйская «Кія» (2438). Расійскі ВАЗ упершыню за доўгі час вылецеў з тройкі самых пасяховых, ідучы нага ў нагу з французскім «Нісанам». Сярод элітных брэндаў у спісе БАА фігуруюць «Поршэ» (56 аўто) і «Ягуар» (16 аўто).

**Ягор Марціновіч**

**Самыя папулярныя мадэлі ў Беларусі** (па продажах новых машын)*

2009 — «Таёта Карола»

2010 — «Дэу Маціз»

2011 — «Дачыя Логан»

2012 — «Лада Прыёра»

2013 — «Фальксваген Пола»

2014 — «Фальксваген Пола»

* звесткі Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі

**Што купляюць у Расіі?***

1. Lada Granta 153 000
2. Hyundai Solaris 115 000
3. KIA New Rio 94 000

**Што купляюць у Еўропе?***

1. Volkswagen Golf 521 000
2. Ford Fiesta 309 000
3. Renault Clio 301 000

*Тройкі самых папулярных аўто не змянілася за год

**«Фальксваген Пола Седан»**

Вытворчасць «Пола», легендарнай мадэлі нямецкага аўтаканцэрна, пачалася яшчэ ў 1975 годзе. Цяперашнія новыя машыны належаць да пятага пакалення.

Мадэль «Пола Седан» створаная для рынкаў «трэцяга свету» — Індыі, Бразіліі, Кітая. Расійская версія збіраецца на заводзе пад Калугай. Менавіта гэтае аўто прадаецца і ў Беларусі.

Самая танная мадыфікацыя — Polo G Conceptline. Мае пярэдні прывад, бензінавы рухавік 1,6 л (85 к.с.) і 5-прыступкавую механічную каробку перадач.

Расход паліва — 8,7 л/100 км у горадзе і 5,1 л/100 км на трасе.

Цана такога аўто ў каталогу — ад $10 400.

# Украіна на мяжы банкруцтва

Курс даляра вырас **да 25 грыўняў**.

Апошнія месяцы ва Украіне існавала некалькі курсаў, цяпер Нацбанк вырашыў уніфікаваць іх. Афіцыйны курс даляра ўзняўся да 25 грыўняў, гэта гістарычны максімум. Сярэдні заробак тым часам упаў да $150 — найгоршы паказчык у Еўропе.

Нацыянальная валюта працягвае абясцэньвацца, і падтрымліваць курс няма чым. Золатавалютныя рэзервы зменшыліся да $6,4 мільярда. Для параўнання: яны былі $15,4 мільярда на момант уцёкаў з краіны Віктара Януковіча і $34 мільярды пры канцы кіравання аранжавых сілаў у 2010 годзе.

Так Расія шляхам узброенай агрэсіі, газавай блакады і эмбарга на імпарт украінскіх тавараў за год паставіла Украіну на мяжу банкруцтва.

Украіне пагражае дэфолт па яе міжнародных забавязаннях. Далейшае вядзенне вайны ва ўмовах фінансавага паралічу таксама становіцца праблематычным.

**Мікола Бугай**

# Беларусь просіць у Расіі дапамогі на $2,5 мільярда?

Улады Беларусі запыталі ва ўрада Расіі фінансавую падтрымку на 2015 год. Пра гэта парталу TUT.BY паведамілі некалькі інфармаваных крыніц.

«Гэта могуць быць як крэдыты ад урада Расіі, так і буйных расійскіх дзяржбанкаў. Агулам падтрымка можа скласці 2,5 мільярда», — распавёў суразмоўца.

«Плюс да ўсяго беларускія прадпрыемствы могуць атрымаць істотныя прывілеі па доступе на расійскі рынак. Сёння, нягледзячы на дэклараваную адзіную эканамічную прастору, існуюць пэўныя бар'еры наконт доступу на рынак Расіі», — дадаў ён.

Паводле газеты «Белорусы і рынок», урад Беларусі рыхтуе праграму сумесных з Расіяй антыкрызісных мер. Фінальную версію плануецца разгледзець і ўзгадніць 3 сакавіка.

Беларусі ў гэтым годзе неабходна выплаціць каля $4 мільярдаў па знешніх абавязацельствах. Пры гэтым золатавалютныя рэзервы краіны працягваюць раставаць. За студзень яны ўсохлі яшчэ на $335 мільёнаў — да $4,7 мільярда.

**Паводле Tut.by**

# Для каго ўвялі падатак на пазыкі?

Палата прадстаўнікоў незаўважна для грамадскасці прыняла папраўкі ў падатковы кодэкс. Паводле іх, з 1 студзеня ў некаторых выпадках грамадзянам давядзецца плаціць падатак з пазыкаў. У якіх сітуацыях ён будзе прымяняцца?

Атрымаўшы грошы ад сваяка ці суседа, адразу бегчы ў банк не трэба. Заплаціць давядзецца, толькі калі гэтага запатрабуюць падатківікі. Даведаўшыся, што нібыта беспрацоўны грамадзянін ажыццявіў дарагую куплю (напрыклад, кватэру ці аўто), у яго папросяць дэкларацыю аб даходах і маёмасці, каб высветліць, адкуль узяліся грошы.

Раней у такіх сітуацыях грамадзяне тлумачылі, што проста пазычылі вялікую суму ў знаёмых замежнікаў. Цяпер такі адказ не спрацуе.

Калі, па меркаванні падатковай, выдаткі грамадзяніна не супадаюць з даходамі, ад яго запатрабуюць напрацягу месяца заплаціць падатак, 13% ад сумы «пазыкі».

Выключэнне зробленае для блізкіх сваякоў. Калі грамадзянін скажа, што грошы атрымаў ад бацькоў, падатак плаціць не давядзецца. Але тады падатковая можа прыйсці да іх і спытаць, адкуль з'явіліся грошы.

**ЯМ**

# Еўрасаюз адмовіўся крэдытаваць Грэцыю пад заставу аблігацый

Гэты крок выкліча **падзенне еўра**.

Еўрапейскі цэнтральны банк (ЕЦБ) адмовіўся выкарыстоўваць грэчаскія даўгавыя дзяржаўныя аблігацыі ў якасці забеспячэння крэдытаў для банкаў краіны.

ЕЦБ не згодны з ключавым пунктам новага антыкрызіснага плана Грэцыі. У прыватнасці, рэгулятару не падабаўся план, у адпаведнасці з якім Афіны прыцягнуць 10 мільярдаў еўра праз выпуск кароткатэрміновых казначэйскіх вэксаляў у якасці «прамежкавага фінансавання» на бліжэйшыя тры месяцы, пакуль Грэцыя ўзгадняе новыя меры са сваімі партнёрамі па еўразоне.

У Грэцыі да ўлады прыйшоў лявацкі папулісцкі ўрад. Асобныя яго дзеячы звязаныя цеснымі сувязямі з рэжымам Пуціна. У прыватнасці, міністр замежных справаў Грэцыі наведваў выступ у Афінах расійскага неанацыста Дугіна.

Новы прэм'ер Грэцыі Алексіс Ціпрас хоча, каб Грэцыі адтэрмінавалі выплаты па замежным доўгу.

Ранейшыя ўрады Грэцыі — як левыя, так і правыя — набралі зашмат крэдытаў, каб забяспечыць рост узроўню жыцця. Калі тое выявілася, распачаўся моцны фінансавы крызіс.

Эканоміка Грэцыі скарацілася на 27% ад 2007 года, больш за чвэрць насельніцтва краіны лічыцца фармальна беспрацоўным. Праўда, некаторыя эканамісты ставяць апошнюю лічбу пад сумнеў, бо ў грэчаскай статыстыцы шмат махлярства. Гэтак, у краіне фіксаваліся выпадкі, калі «сляпыя», што атрымлівалі высокую дапамогу па інваліднасці, адначасова працавалі таксістамі.

**Сяргей Гезгала**

## Сцісла

### Валютчыкаў пакараюць мацней

Указ Аляксандра Лукашэнкі павялічыў адказнасць за незаконныя валютныя аперацыі. За куплю, продаж і абмен валюты могуць пакараць на 27 мільёнаў рублёў, а паўторна — да 36 мільёнаў. За незаконны разлік валютай насельніцтва могуць аштрафаваць да 18 мільёнаў, а юрыдычных асоб — да 54 мільёнаў (пры паўтарэнні).

### Свініна па 60 тысяч бывае

На Камароўскім рынку ў Мінску чатыры арганізацыі гандлю («Жывінка», «Азарэнне» і два мінскія холадакамбінаты) будуць прадаваць танную свініну. Акцыя пройдзе 14, 21 і 28 лютага.

### У студзені цэны выраслі на 2,4%

Сярод харчавання найбольш падаражэлі гароднiна (22%) і фрукты (16%). А вось мяса, паводле падлікаў Белстата, нават крыху патаннела. Гадавы план інфляцыі складае 18%.

### «Нафтан» замарозіць заробкі на паўгода

На нафтаперацоўчым заводзе не плануюць павышаць зарплату персаналу. «Сёння важна захаваць хаця б тыя пазіцыі, якія існуюць. Калі хтосьці разлічвае на большае, то хачу адразу сказаць: у бліжэйшай, як мінімум паўгадавой перспектыве такіх магчымасцяў не прагледаецца», — заявіў гендырэктар «Нафтана» Уладзімір Трацякоў.

**ЯМ**

# Вялікае каханне ў горадзе

Закаханыя **чытачы «НН»** фатаграфуюцца на вуліцах Мінска да Дня святога Валянціна.

На заклік «НН» адгукнулася 16 закаханых пар. Не ўсе знайшлі час, каб сфатаграфавацца да выхаду нумара газеты. Поўны рэпартаж глядзіце на галоўнай старонцы сайта nn.by 14 лютага.

**Дзень святога Валянціна**

адзначаецца ў гонар раннехрысціянскага святога, што насіў гэтае імя, але паходзіць ад рымскіх Луперкалій, фестывалю эратызму ў гонар багоў кахання. Святога Валянціна ў 269 годзе н. э. рымскі імператар Клаўдзій II загадаў забіць за прапаведніцкую дзейнасць сярод моладзі. Ён быў пакараны 14 лютага. У Сярэднявеччы жыццё св. Валянціна пачало абрастаць легендамі. Паводле іх, імператар забараніў мужчынам жаніцца, каб лепш ваявалі, а святар Валянцін употай асвячаў шлюбы. Святара асудзілі на смерць. У турме ён пазнаёміўся з дачкой наглядчыка — Юліяй. Закаханы святар перад смерцю напісаў ёй прызнанне ў каханні — валянцінку. Гэтая духоўная легенда змяніла паганскае гульбішча. І хоць свята не з'яўляецца дзяржаўным у ніводнай краіне, адзначаюць яго цяпер усюды, акрамя Паўночнай Карэі і т.п., дзе дагэтуль кіруюць сучасныя клаўдзіі.



**Міхась (28), родам з Асіповічаў і Марына (25), родам з Віцебска. Іх прозвішча — Чаропкі. Міхась працуе над літаратурным праектам, а Марына — фатограф.**



**Яўген (24) і Хрысціна (23). Сустракаліся 2,5 года і паўгода таму ажаніліся.**



**Алесь (29) і Настасся (21) Красоўскія. Алесь — праграміст, а Настасся вывучае дызайн адзення.**



**Віталь — 22 гады і Хрысціна — 20 гадоў. Сустракаюцца больш за год. Хрысціна асвойвае спецыяльнасць інжынера-будаўніка, а Віталь працуе ў Мінску.**



**Мінчукі Хведар (26) і Паліна (25) Касцючэнкі. Хведар працуе ў сферы медыцынскага турызму, а Паліна знаходзіцца ў творчым адпачынку. Жанатыя паўгода.**

**Фота Сяргея Гудзіліна.**

# Шнураў назваў песню Макса Каржа галоўным хітом XXI стагоддзя

Часопіс GQ задаў пытанне расійскім музыкам пра самыя знакавыя расійскія песні гэтага стагоддзя. Сяргей Шнураў паставіў песню Макса Каржа «Жить в кайф» на першае месца.

Другое ён аддаў кампазіцыі «Белая стрекоза любви» (выконваецца ўкраінскім гуртом Quest Pistols), на трэцім — «Рюмка водки на столе» Грыгорыя Лепса.

Раней у інстаграме лідара «Ленінграда» з'явіўся агляд выразу «Жыць у кайф».

«Дакладней, чым Макс Корж, і не сфармулюеш, і не перадасі дух часу». «Я выбіраю жыць у кайф». Вось ён — транспарант сучаснасці. Вось ён — аднагалосны выбар большасці.

Вялікае і не такое простае, як здаецца, выслоўе. У першых двух словах — «я выбіраю» — аўтар паведамляе нам пра тое, што ў сучасным свеце «выбар» стаў сімвалам Свабоды. Маючы магчымасць выбіраць піва, вопратку, машыну, прэзідэнта, *******(жанчынаў лёгкіх нораваў), кватэру, тую ці іншую мадэль паводзінаў, чалавек лічыць сябе вольным.

Але Макс ідзе далей «Я выбіраю — жыць ...». У гэтым выразе ён, як «свабодны» чалавек, перамагае лёс і смерць. Ад цяпер ні якія Мойры, ні Наканаванне не ўладныя над ім. Ён сам пляце свой лёс.

Слова кайф пайшло ад арабскага слова «кэйф» — час прыемнага гультайства, задавальнення. Такім чынам у формуле Каржа прысутнічаюць нават мультыкультурная водгукі глабалізацыі. «Жыць у кайф» — гэта смачны постгуманізм, дактрына? якая знаходзіцца па-за межамі чалавечага дабра і зла. Кайф не ведае літасці, жалю і спагады.

Кайф — гэта мэта, сэнс і апраўданне за ўсё. Нішто ********(моцна здзівіўся) б».

**Іван Шыла**




## Сяргей Міхалок. Родны край



Сяргей Міхалок напісаў новую песню. Яна выкладзена на канале гурту Brutto на Youtube. Міхалок пачынае відэа з прысвячэння пабеларуску: «У майго Макара сёння імяніны. Віншую яго песняй «Родны край».

Родны, родны, родны край,
Я табе вораг, мяне не чакай.
Родны, родны, родны брат,
Бойся мяне, я — злодзей ды кат.
Родная, родная, родная маці,
Я ваўкалака, хавайся ў хаце.
Родны, родны, родны бацька,
Сын звар'яцеў, не трэба чакаць яго.
Родны край.
Родны край.
Родны, родны, родны бусел,
У вочы дзюбай мяне ды вусны.
Родны, родны, родны вецер,
Гані мяне прэч, я — попел ды смецце.
Родны, родны, родны ланцуг,
Даві мяне больш, я — шэры пацук.
Родны, родны, родны край,
Я — люты здраднік, мяне пакарай.
Родны край.
Родны край.

## «Самы сэксуальны злачынца» атрымаў два гады турмы

Папулярнасць у інтэрнэце не дапамагла 31-гадоваму **Джэрэмі Міксу** пазбегнуць пакарання, паведамляе New York Daily News.

Джэрэмі Мікс атрымаў за незаконнае захоўванне зброі два гады пазбаўлення волі ў федэральнай турме і 500 гадзін рэабілітацыі для асоб, што церпяць ад цягі да забароненых прэпаратаў.

Злачынца атрымаў папулярнасць у чэрвені 2014 года. Яго фота было апублікаванае на Facebook паліцыі горада Стоктан (Каліфорнія, ЗША) і сабрала больш за 100 тысяч лайкаў, была створаная фан-старонка прывабнага, але небяспечнага мужчыны. Фанаты называюць яго не іначай як «самым сэксуальным» альбо «самым прывабным» злачынцам.

Мікс атрымаў прапановы ад шэрагу мадэльных агенцтваў і падпісаў некалькі кантрактаў з галівудскімі агентамі. Але невядома, ці застануцца ў сіле дамовы пасля выхаду злачынцы на волю.

**Аляксандр Арсёнаў**



## Hvilina выпусціць наручныя гадзіннікі ў нацыянальным стылі

Прагаласаваць за найлепшы варыянт дызайну з вышыўкай і найлепшы з гербам «Пагоня» можна на сайце «МоваНанова».

Па вызначэнні дызайну і пры пэўнай зацікаўленасці публікі кампанія Hvilina замовіць першую партыю гадзіннікаў, а праз два тыдні па тым яны з'явяцца ў продажы.

«Кошт гадзінніка будзе да аднаго мільёна», — распавёў «Нашай Ніве» прадстаўнік Hvilina.

Гадзіннікі будуць прадавацца праз інтэрнэт, таксама будуць весціся перамовы з рознымі гандлёвымі кропкамі па Беларусі. Напачатку з'явяцца дзве мадэлі — «вышываная» і з «Пагоняй».

**АА**



## Сурок-прадказальнік укусіў мэра горада за вуха

Сурок у амерыканскім штаце Вісконсін укусіў за вуха мэра горада Сан-Прэры, які спрабаваў даведацца ў жывёлы, ці доўгай будзе зіма.

Самы вядомы сурок — Філ — жыве ў Пенсільваніі, у Панксантоні. Сюды з'ехалася 30 тыс. чалавек, каб паглядзець, як Філ прадкажа яшчэ шэсць тыдняў зімы. Але прадказаннямі займаюцца іншыя суркі.

І калі сурка-прадказальніка, па мянушцы Джымі, паднеслі да вуха мэра Сан-Прэры Джоната Фройнда, каб той прашаптаў свой прагноз, жывёла вырашыла ўкусіць чыноўніка.

**АГ**

## Святлана Бароўская абмяркуе з зоркамі іх праблемы

У эфіры тэлеканала «Беларусь-1» з'явіўся праект Святланы Бароўскай «Выхад ёсць». Тэлевядучая запрашае ў студыю беларускіх зорак, каб распытаць, як тыя выходзілі са складаных жыццёвых сітуацый.

Сярод герояў першых выпускаў — Валерый Галаўко, Таццяна Бандарчук, Вольга Клебановіч, Дзмітрый Астрахан.

«Колькі было жонак у Мікалая Мірнага і як ён з імі расстаўся? Чаму Эвеліна Сакура цяпер цяпер не ўжывае алкаголь?» — будуць расказваць у праграме Бароўскай. БТ спрабуе перамяніць гледачоў, якія стаміліся ад расповедаў расійскіх зорак.

Перадачу будуць паказваць увечары па нядзелях.

**ЯМ**

**Святлана Бароўская** — актрыса, тэлевядучая, былая прэс-сакратарка Міністэрства ўнутраных спраў.



Кіно

## На службе чалавецтву

Гульня ў імітацыю
Жанр: драма, біяграфія, ваенны
Рэжысёр: Мортэн Цільдум
У ролях: Бенедыкт Камбербэтч, Кіра Найтлі, Мэцью Гуд, Роры Кінер, Ален Ліч, Мэцью Бірд, Чальз Дэнс, Марг Стронг, Джэймс Норткат
Вялікабрытанія, ЗША, 114 хв.
Адзнака: 8,5 з 10.

1939. Брытанская выведка даручае таленавітаму матэматыку і логіку Алану Цьюрынгу расшыфроўку сакрэтнага кода Энігмы — унікальнай шыфравальнай машыны Трэцяга рэйха. Цьюрынг набірае бліскучую каманду з дапамогай крыжаванкі, змешчанай ў брытанскай газеце, і пачынае працу ў звышсакрэтным цэнтры ўзлому шыфраў і кодаў — Блетчлі-парку.

Фільм расказвае пра заснавальніка сучаснай інфарматыкі Алана Цьюрыга, які падчас Другой сусветнай вайны стварыў прататып камп'ютара. Сцэнар заснаваны на кнізе Эндру Ходжэса «Алан Цьюрынг: Энігма», а рэжысёрам стаў нарвежац Мортэн Цільдум («Паляўнічыя за галовамі», 2012). Здымкі адбываліся ў Блетчлі-парку і школе Шэрбарн, дзе вучыўся Цьюрынг, а прататып электроннамеханічнай машыны, ім створаны, быў пав'ялічаны дзеля надання большай кінаматаграфічнасці.

Сюжэт мае тры планы: адзін расказвае пра часы вучобы будучага матэматыка ў школе Шэрбарн, другі — уласна праца ў Блетчлі-парку, трэці — драматычныя падзеі перадапошняга года жыцця Алана, які зазнаў пераслед з-за сваёй гомасэксуальнасці. Закранутая таксама і псеўдарамантычная лінія адносінаў Цьюрынга з калегай Джоан Кларк, якую сыграла Кіра Найтлі.




Стужка намінаваная на «Оскар-2015» у некалькіх катэгорыях, сярод якіх «Найлепшы фільм», «Найлепшая рэжысёрская работа», «Найлепшая мужчынская роль». Фільм уключаны ў спіс «Найлепшых фільмаў 2014 года» Нацыянальнай радай кінакрытыкаў ЗША.

**Настасся Уласава**

# Разгільдзяйства, узведзенае ў ранг нормы, — гэта ў іх называецца «ямачны рамонт»

З кожнага аўтамабіля бяруць падатак. Афіцыйна, яго трацяць на дарогі. Але ж як!

10 студзеня гэтага года ў вёсцы Лунна, што на Мастоўшчыне, на вуліцы Явара праводзілі ямачны рамонт. Вуліца тая была заасфальтаваная не без майго ўдзелу ў часы дэпутацтва ў сельсавеце. Але ж, вядома, усё зношваецца, тым больш дарога. Дык вось, едзе трактар з прычэпам, поўным сумесі каменьчыкаў у смале. Двое мужчын з прычэпа кідаюць сумесь у ямкі на дарозе. За імі ідзе хлопец, усё гэта разраўноўвае нагой, прытоптвае і ідзе далей. Дык хаця б шуфля далі хлопцу, каб разраўноўваў! Хоць бы трамбоўку зрабілі!

За імі едзе машына з газавым балонам на кузаве. Мужык гарэлкай разаграе гэтую сумесь, каб склеілася. Вось такі ямачны рамонт! Дык нармальна будзе заасфальтавана за нашыя з вамі грошы? Яно, безумоўна, праехаць стала лепш, але ці надоўга? 30 хвілін працы, 300 метраў рамонту. Але ж тыдзень, два — і ўсё коламі вынесуць.

Не, не будзем мы ніколі добра жыць, калі не будзе гаспадара — ад фермы да дарогі. Як шкада патрачаных 20 гадоў жыцця без надзеі!

**Уладзімір Брыцько, Лунна (Мастоўскі раён)**

**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты. У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы наракані павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

# Вайна ва Украіне — гэта злачынства

У Данецку жывуць двое маіх стрыечных братоў — Валянцін і Юрый Яўсейчыкі. У канцы 60-х ад «шчаслівага» калгаснага жыцця на шахты Данбаса з'ехаў мой родны дзядзька Мікалай Іванавіч Яўсейчык. Ажаніўся ён з вельмі прыгожай украінкай Любоўю Рыгораўнай — настаўніцай украінскай мовы і літаратуры. Усе яны вольна размаўлялі па-руску, па-беларуску, па-ўкраінску.

Я быў на вяселлі брата Юрыя. Дык вось, 50—60% мужчын, якія былі на вяселлі — беларусы, сябры майго дзядзькі Колі і цёткі Любы. Амаль 100% насельніцтва мястэчка — шахцёры-беларусы і іх жонкі-ўкраінкі, дзеці, народжаныя ва Украіне, але з прозвішчамі бацькоў-беларусаў.

У Луганскай вобласці жывуць мае сябры маладосці. З лістапада 1971 года па лістапад 1973 мы праходзілі тэрміновую службу ў 213 асобным вузле сувязі 11-га корпуса войскаў СПА 2-й асобнай арміі СПА СССР. Усе яны: Валодзя Пасечнік, Валодзя Серабранскі, Юрый Яцко, Паша Луганскі, Валодзя Калеснік і яшчэ тры дзясяткі прозвішчаў — украінцы. Сёння ім, як і мне, па 61 году. А Паўлу Луганскаму — 65. І за што ім выпаў такі лёс — стаць «апалчэнцамі» і ваяваць супраць уласнага народа? Ваяваць супраць Юры Паршына з Мічурынска Тамбоўскай вобласці, Сяргея Дудніка з Растоўскай вобласці, супраць саслужыўцаў з Валгаграда, якія прыйшлі ва Украіну абараняць рускамоўнае насельніцтва ад «бандэраўцаў». Але я памятаю два дзясяткі прозвішчаў саслужыўцаў з Валынскай, Цярнопальскай, Ровенскай абласцей, бацькі якіх ваявалі на баку Чырвонай Арміі і ніяк не маглі быць «бандэраўцамі».

Тое, што цяпер адбываецца ва Украіне, — гэта страшна. Каб зразумець прычыны таго, што адбываецца цяпер, трэба вярнуцца ў пачатак 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Ужо тады ўскладніліся няпростыя адносіны Расіі і Украіны з-за Чарнаморскага флоту. І дзіўная рэч: усе сродкі масавай інфармацыі ў Маскве і Кіеве, пачалі гаварыць пра вайну. Былі спрэчкі з Казахстанам з нагоды касмадрома Байканур — пра вайну не гаварылі і не пісалі. З Таджыкістана амаль усіх рускіх выціснулі — усе маўчалі, а вось з Украінай… Калі хто з палітыкаў выступіць з непрадказальнымі заявамі, усе адразу: вайна, вайна…

Так, Крым даўно ператварыўся ва ўсесаюзны адстойнік, куды ўсімі праўдамі і няпраўдамі спрабавалі трапіць адстаўнікі. Так, Крым, як і ўсе «ўсесаюзныя здраўніцы» задоўга да распаду Савецкага Саюза ўвайшоў у рынак. Таму крымчане былі зацікаўленыя ў далучэнні да Расіі. Але сапраўдная прычына цікавасці Масквы была закапаная глыбей: у Чорным моры ёсць нафта...

Лідар Народнага руху Украіны Вячаслаў Чарнавіл у 1994 годзе сказаў: «Калі Расія не будзе ўмешвацца ў справы Украіны, то ў Крыме ўсё наладзіцца». Але ён засцерагаў: «Калі сітуацыя ў Крыме дойдзе да адкрытых канфліктаў, гэта прывядзе не толькі да распаду Украіны. Будзе ўвогуле распад усёй еўрапейскай прасторы з тымі ці іншымі сцэнарамі. Я баюся, што пажар можа ахапіць не толькі Украіну і Расію, але і значную частку Еўропы. Гэта як запад да бомбы».

А ўкраінскія палітыкі спрачаліся і не знаходзілі рашэння па Крыме...

Тады, у 1994 годзе, мала хто думаў, што між Украінай і Расіяй магчымая вайна. Бо гэта ж два славянскія народы, блізкія па культуры, мільёны змешаных шлюбаў. Але яшчэ і таму, што тады ва Украіне была атамная зброя...

Досвед войнаў на постсавецкай прасторы паказаў, што рана ці позна дагвядзецца вярнуцца да палітычнага дыялогу. І вось цяпер, у студзені 2015 года, калі расійскае тэлебачанне паказвае «апалчэнцаў» у разбураным аэрапорце Данецка, на рукавах куртак вайскоўцаў я бачу шаўроны марской пяхоты Расіі... Таму расійскія каналы больш не ўключаю.

Амаль усе дамы ў мястэчку шахцёраў на ўскрайку Данецка, дзе жылі браты-беларусы, знішчаныя. У тым ліку і брата майго дом...

**Мікалай Емяльянчык, Мінск**

Пастуліў сігнал

## ААТ «Трэст №15 Спецбуд» пераходзіць на чатырохдзёнку

Усё сталічнае прадпрыемства — ад гендырэктара і да прыбіральшчыцы — з 12 лютага будзе працаваць чатыры дні на тыдзень і па 7 гадзін у дзень. Такі графік уводзіцца да 1 красавіка, паведаміў нам чытач.

«Цяпер на прадпрыемстве склалася такая сітуацыя, што мы не ў стане плаціць людзям за поўны працоўны дзень. Гэта залежыць ад шэрагу прычын: і ад эканамічнай сітуацыі, і ад здольнасцей заказчыкаў аплочваць нашую працу», — пацвердзіла «Нашай Ніве» Кацярына Маргулец, начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай і прававой работы мінскага прадпрыемства.

Трэст №15 працуе на рынку будаўнічых паслуг амаль 60 гадоў. У яго складзе пяць спецыялізаваных упраўленняў і ўпраўленне вытворча-тэхналагічнай камплектацыі.

На сённяшні дзень на прадпрыемстве працуе каля 1800 чалавек.

**Уладзіслаў Швядовіч**

Нацыянальны інтэрас

## Беларускія грошы будучыні: лепей бы назваць па-свойму — «белар»

З цікавасцю пазнаёміўся ў «Нашай Ніве» (№2 ад 14 студзеня) з выявамі Рамана Дубінкі з Кобрына магчымых у будучыні беларускіх грашовых знакаў. Сапраўды, крэатыў. Праўда, варта было б улічыць яшчэ два моманты.

Па-першае, блізкае каляровае падабенства з еўра можа выклікаць блытаніну. Цяпер, дарэчы, так здараецца, асабліва ў людзей з пагоршаным зрокам ці пажылых, з купюрамі 50 рублёў і 10 тысяч, тысячы і 50 тысяч. Быў не аднойчы сведкам гэтага, а разы тры сам памыляўся.

Па-другое, і больш істотнае, адносна магчымай новай назвы беларускай валюты. Зразумела, канечне, чаму ў беларуса назва «рубель» выклікае адмоўныя эмоцыі. Аднак жа і «талер», хоць і цешыць, магчыма, у таго-сяго слых еўрапейсасцю-заможнасцю, падсвядомасць насцярожвае: ну, не «сваё». Бо сапраўды ж заёмнае, старагерманскае.

На зайздрасць добры варыянт выбралі ўкраінцы — успомнілі старажытную кіеўскую «грыўню». Палякі стагоддзямі не расстаюцца са сваім «злотым». Літоўцы геніяльна вынайшлі «літ». Латышы — «лат»! Ну а чаму б нам, беларусам, хоць у будучым не пайсці тым жа шляхам ды не назваць нацыянальную валюту адпаведна — «белар»? Можна і карацей — «бел». Дарэчы, гэтым дадаткова падкрэслівалася б наша духоўная повязь з продкамі, у якіх у дахрысціянскі час быў вельмі чалавечны «сонечны» бог Бялун, бог жыватворнага святла і дабрыні, які дапамагае чэсным людзям ратавацца ад бяды, гэтым, дарэчы, нагадваючы Ісуса Хрыста. Сам аўтар гэтых радкоў у сваім апошнім гістарычным рамане «Перад патопам» назваў першую частку кнігі старажытнай прыказкай: «Цёмна ў лесе без Белуна», а Уладзімір Арлоў стварыў выдатную навелу: «Дзеці Белбога».

Назва «белар» гучыць выдатна.

**Эрнест Ялугін, Мінск**

Сагі

## Вершаваныя ўспаміны пра незабыўную маму

Да вас звяртаецца пастаянная чытачка вашай газеты. Мне заўсёды вельмі прыемна чытаць «Нашу Ніву» і хачу падзяліцца з вамі ўспамінамі пра асаблівага чалавека — маю маці, якой сёння было б сто гадоў — піша яна. Звалі яе Навіцкая (Шпакава) Кацярына Мацвееўна. Пражыла яна роўна 80 гадоў. Жыла ў вёсцы Латышы Расонскага раёна Віцебскай вобласці. Пахавана на могілках у Мурагах (там пахаваны ўсе Навіцкія).

Сто год было б сёння матулі.
І вось звяртаюся я к вам.
К сваім пачуццям, успамінам.
Хачу даць волю я славам!

Яна нарадзілася ў вёсцы
Пад назвай «Навікі».
Назвалі маці Кацярынай.
Далей яе быў шлях такі.

Што да дзяцінства «ў сэнсе нашым»,
Ў яе такога не было.
З маленства праца, праца, праца —
Усё што знала, што было!

Яе у школу не пусцілі —
«Навошта граматнаю быць!
Дзяўчыне хопіць працы дома
За дзецьмі меншымі сачыць!»

А ў год сямнаццаць выйсці замуж
Рашуча бацька загадаў.
Ні просьбаў дзеўчыны, ні плачу
На момант той ён не ўспрымаў.

А у вайну з малым застацца?
Мужа — на фронт, яе — акопы рыць,
Зазнала голад, зноў жа — страх і праца,
Як цяжка было тое перажыць.

Ды хоць у тым пашчасціла матулі —
З вайны вярнуўся бацька мой.
І хоць быў пакалечаны татуля,
Але жывы і з ясназ галавой.

Цяжка рабіла і ў калгасе
Зранку да ночы — увесь дзень.
За гэта грошай не атрымаеш,
А птушачку — ёсць працадзень!

На кроснах ткала пакрывалы,
І ўсё здзіўлялася сяло.
Без шва, з узорам зусім новым,
Такіх ў акрузе не было.

План хаты новай састаўляла
Не адну ночку напралёт —
Як перастаць пра гэта марыць,
Бо думкі былі такі узлёт!

Хоць цьмяна лямпа-керасінка
У хаце вечарам гарыць.
А на душы так светла, добра!
Як гэта казку паўтарыць?

Прыгожы голас мела маці
І запявалаю была.
На «брыксах» ў вёсцы ці вяселлі
Сваёю песняю жыла.

Складала вершы пра мясціны,
Дзе нарадзілася, жыла.
І ўсё ў памяці трымала,
Бо запісаць іх не магла.

Сваім жыццём ахвяравала,
Ні ў чым сябе не берагла.
Майго сыночка даглядала,
Каб хоць вучыцца я змагла.

Хлусні матуля не цярпела —
Заўсёды шчыраю была.
І праўду-матку скажа ў вочы,
І нас той сцежкаю вяла!

Згубіла талент — непісьменнасць,
Цяжкую долю адвяла!
Ах, мама, мамачка, матуля!
Якой ты сонечнай была!

**Валянціна Дзмітрыеўна Анецька**





Liceum

### Бясплатныя заняткі па беларускай мове і гісторыі Беларусі

для вучняў 7—9-х класаў з вядомымі навукоўцамі і педагогамі!

Арганізацыйны сход — 2 сакавіка (панядзелак) у сядзібе ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны» (вул.Румянцава, 13, ст.метро «Плошча Перамогі»). Пачатак — 17.00.



# Як беларускія бамжы рабавалі масквічоў пад выглядам паліцэйскіх

Расейцы аддавалі грошы і не скардзіліся.

У Расіі набыць вайсковую або паліцэйскую форму і амуніцыю ў крамах «Военторг» можа кожны. Гэта і стала сапраўднай залатой жылай для трох бамжоў з Беларусі.

Сабраўшы патрэбную суму, трое мужчын, якія начавалі ў кабінках грамадскай прыбіральні Беларускага вакзала, пачалі зусім новае жыццё, стаўшы «паліцэйскімі».

Дзіўна, але пры выбары пасад і званняў беларускія бамжы праявілі сціпласць: двое з іх прышылі да формы знакі і пагоны старшых лейтэнантаў, а трэцяга мужчыну, буйнога целаскладу, зрабілі «супрацоўнікам АМАПа».

Пасля гэтага трое беларусаў «заступілі на службу», пачаўшы банальна рабаваць расейцаў пад выглядам супрацоўнікаў транспартнай паліцыі. У якасці ахвяр бамжы, як правіла, выбіралі проста апранутых грамадзян, якіх адводзілі ў зацішныя месцы на Беларускім вакзале Масквы і прылеглых вуліцах «для праверкі дакументаў».


РИА НОВОСТИ

Пашпарты пацярпелым затым вярталі, а вось мабільныя тэлефоны і грошы пакідалі сабе, пагражаючы пры гэтым «пасадзіць у турму». Дзіўна, але расейцы пакорліва аддавалі «паліцыянтам» сваю няхітрую маёмасць і нікуды не скардзіліся.

Неўзабаве, «зарабіўшы» рабаваннямі пэўную колькасць грошай, «паліцэйскія» вырашылі палепшыць свае жыллёвыя ўмовы. З кабінак грамадскай прыбіральні Беларускага вакзала Масквы яны перабраліся ў падвал размешчанага недалёка дома і працягнулі рэгулярныя заняткі злачыннай здабычай.

Невядома, колькі б яшчэ працягвалася прыбыльное жыццё беларускіх бамжоў, але сустрэўся на іх шляху 1 лютага прынцыповы расеец. Мужчына, якога беларусы «надгледзелі» ноччу ў кафэ на Вялікай Грузінскай вуліцы ў Маскве, адабраўшы ў яго мабільны тэлефон і каля $200, аказаўся адзіным з сотняў пацярпелых, хто не стаў мірыцца з «самаўпраўствам» і прыйшоў па дапамогу ў аддзяленне паліцыі, дзе напісаў адпаведную заяву.

Інфармацыя аб з'яўленні ў расійскай сталіцы чарговых пярэваратняў у пагонах была перададзена ў «глаўк». Аператыўнікі ўзяліся за праверку ўсіх паліцэйскіх, якія працуюць на Беларускім вакзале і прылеглых тэрыторыях. А неўзабаве ў склепе дома на Вялікай Грузінскай удалося затрымаць і сапраўдных рабаўнікоў.

У працэсе следства высветлілася, што трое беларусаў, пакінуўшы дома жонак і дзяцей, прыехалі ў Маскву на заробкі. У двух з іх на радзіме былі судзімасці за крадзяжы. Адзін беларускі псеўдаміліцыянер спачатку ўладкаваўся працаваць у аўтасэрвіс, але потым зразумеў, што жабраваннем і крадзяжом у падпітых пасажыраў можна зарабіць нашмат больш.

У цяперашні час аператыўнікі спрабуюць выявіць усіх пацярпелых ад дзейнасці бамжоў-паліцэйскіх. Не выключана, што гаворка можа ісці пра сотні ахвяр. Таксама ў ГУУС Масквы спрабуюць высветліць, чым займаліся на Беларускім вакзале сапраўдныя праваахоўнікі, калі такі доўгі час не заўважалі дзейнасць сваіх фальшывых «калегаў».

**Інф. Lenta.ru**

# Забойцу Саламацінай пасадзілі на 17 гадоў



Забойца 18-гадовай Юліі Саламацінай Павел Цыняўскі асуджаны на 17 гадоў калоніі строгага рэжыму, першыя пяць гадоў ён правядзе ў турме. Ягоная маці атрымала два гады калоніі агульнага рэжыму.

Таксама з Цыняўскага пастаноўлена спагнаць 1,5 мільярда рублёў кампенсацыі, з маці — яшчэ 500 мільёнаў рублёў. Кватэру Цыняўскага на вуліцы Чыгладзэ ў Мінску, якую ён здаваў, пастаноўлена канфіскаваць і пусціць грошы ў залік выплаты маральнай кампенсацыі.

На суд Цыняўскага прывезлі з падбітым вокам. Над правым брывом быў кровападцёк. Але што здарылася, ніхто не тлумачыў. А падчас абвяшчэння прысуду адзін з народных засадацеляў страціў прытомнасць, таму быў зроблены перапынак на 15 хвілін.

**Сяргей Макарэвіч**

**Вышук**

### Знікла футра

Увечары 1 лютага ў сталічнай краме на вуліцы Глебкі скралі футра коштам 7 мільёнаў рублёў. Дзяўчына зайшла ў прымерачную з трыма футрамі, а выйшла — з двума. Мяркуецца, мужчына вынес яшчэ адно футра ў сумцы. Хто можа дапамагчы вызначыць асоб на фота, звяртайцеся на (017) 252-02-02.





# У Вілейцы ў ДТЗ загінуў міліцыянт

Аўто перавярнулася і праехала на баку.

Увечары 3 лютага на скрыжаванні вуліц Піянерскай і 1 Мая «Кія Шума» не прапусціла міліцэйскую «Газель». У выніку кіроўца «Газелі» загінуў на месцы.

Прапаршчык міліцыі Дзяніс Шульгач, кіроўца аператыўна-дзяжурнай службы РАУС, ехаў на працу на службовай машыне па вуліцы 1 Мая. Калі ён праязджаў скрыжаванне, кіроўца «Кія», які рухаўся з другараднай вуліцы, не саступіў яму дарогу. Выехаўшы на галоўную, «Кія» ўрэзалася ў міліцэйскі аўтамабіль. Ад моцнага ўдару «Газель» перавярнулася і на баку праехала да абочыны. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў Дзяніс Шульгач памёр на месцы.

22-гадовы кіроўца «Кія» застаўся жывы, але атрымаў закрытую чэрапна-мазгавую траўму, выцятую рану галавы і пералом левага сцягна. Ён быў дастаўлены ў вілейскую бальніцу.

Па папярэдніх дадзеных, кіроўца «Кія» знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. Заведзеная крымінальная справа. Калі віна кіроўцы будзе даказана, яму пагражае ад 6 месяцаў да 7 гадоў пазбаўлення волі.

У абодвух удзельнікаў ДТЗ засталіся малыя дзеці. У Шульгача — гадавалы сын. Нядаўна Дзяніс з жонкай атрымалі блок у інтэрнаце, пачалі будаваць дом.

**Уладзіслаў Швядовіч**

# За смерць цешчы — год папраўчых работ

66-гадовая жанчына пайшла ў поле па моркву. Неўзабаве па яе прыехаў 34-гадовы зяць на «Фальксваген Пасат». Аўтамабіль захрас у грунце і цешча падахвоцілася дапамагчы. У выніку трагічнай выпадковасці пенсіянерка трапіла пад заднія колы аўто.

Следчы камітэт распачаў у дачыненні да кіроўцы крымінальную справу па ч. 2 арт. 317 КК РБ (ДТЗ, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека).

Жонка абвінавачанага падчас пасяджэння прасіла суд аб літасці да мужа і мінімальным пакаранні.

Суд Лунінецкага раёна прызнаў мужчыну вінаватым, прысудзіў да аднаго года папраўчых работ і пазбавіў права кіравання транспартнымі сродкамі тэрмінам на 3 гады.

**Tut.by**

## Сцісла

### Затрыманы суддзя эканамічнага суда Мінска

36-гадовага Юрыя Грушэцкага падазраюць у хабарніцтве, затрыманне праводзілі супрацоўнікі КДБ. Суддзя займаў сваю пасаду са студзеня 2014 года.

### Абрабавалі краму дарагіх гадзіннікаў

Невядомыя трапілі ў краму Time City на вуліцы Камсамольскай, разбіўшы шкляныя дзверы. Затым яны разбілі адну з вітрын і скралі некалькі дарагіх гадзіннікаў. Затрымаць злодзеяў не ўдалося. Па папярэдніх дадзеных, на здзяйсненне крадзяжу спатрэбілася менш за паўтары хвіліны.

### На Магілёўшчыне затрымалі хакера

Зламыснік атрымліваў доступ да электронных кашалькоў, а таксама знаходзіў кампрамат на чалавека і потым вымагаў грошы. Яшчэ ён узломваў сайты прадпрыемстваў і арганізацый і патрабаваў грошы за вяртанне доступу да іх.

Такім чынам за 7 гадоў мужчына зарабіў каля $70 тысяч. Супраць яго заведзена крымінальная справа па артыкуле «Камп'ютарны сабатаж», яму пагражае да пяці год пазбаўлення волі.

### Маці змушала 12-гадовую дачку займацца прастытуцыяй

34-гадовая жыхарка адной з вёсак Лідскага раёна выкарыстоўвала для заняткаў прастытуцыяй сваю дачку. Цяпер ёй пагражае да 10 гадоў калоніі. Адказнасць чакае і «кліента»: 52-гадовага аднавяскоўца могуць пасадзіць на 5 гадоў.

### У салоне аўто знайшлі мёртвага хлопца

Хлопца, які ляжыць на заднім сядзенні машыны, заўважылі мінакі ў Лідзе. Прычына смерці высвятляецца. Вядома, што раней хлопец быў судзімы за захоўванне наркотыкаў. Аднак наркотыкаў ці сведчанняў іх ужывання ў машыне не знайшлі. Не было на целе і слядоў гвалтоўнай смерці.

### На пераходзе збілі маму з дзіцём

У Барысаве 62-гадовы кіроўца «Сеат Таледа» на пешаходным пераходзе наехаў на 29-гадовую жанчыну, якая везла на санках 3-гадовую дачку. На «Сеаце» былі летнія шыны. Дзіця атрымала страсенне мазгоў.

**ЯМ, УШ**

# Аляксандр Кулінковіч: Мы выйграем тыя баі, якія не адбыліся

**Галоўны панк** Беларусі ў гутарцы з «Нашай Нівай» расказвае пра вучобу ў ПТВ, алкагольныя стэрэатыпы, стаўленне да «Русі праваслаўнай» і шмат чаго яшчэ.




НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

**Аляксандр Кулінковіч**

Нарадзіўся ў 1972 у Смалявічах. Рок-музыкант, вакаліст гурту Neuro Dubel.

### «Хабза» — найлепшыя гады ў маім жыцці»

**«Наша Ніва»: Як Вы пажываеце?**

**Аляксандр Кулінковіч:** Усё добра, альбом робім. Гэта самая галоўная падзея ў жыцці любога музыкі. Таму ўсе думкі толькі аб гэтым.

**«НН»: Я не думаю, што толькі альбом пануе ў Вашых думках. Заўтра Вашаму сыну спаўняецца 15 год. Падарунак падрыхтавалі?**

**АК:** Мы вырашылі, што лепей грошы. Ён у такім узросце, калі ўжо складана нешта яму купіць. Ён ужо вельмі дарослы. Калі дзіцяці 5 гадоў, што ні дай — ён будзе рады, то тут сітуацыя іншая. Таму падарунак будзе празаічным.

**«НН»: Якраз у гэтым узросце — 15—16 гадоў — Вы пайшлі паступаць у ПТВ. Што такое савецкае ПТВ?**

**АК:** Такая напаўармейская штука. І гэтым літаральна ўсё сказана. У кабінет прыходзіць настаўнік, дзяжурны яму дае справаздачу. Перад сняданкам мы рабілі фізічныя практыкаванні: бег, падцягванні, брусы. Усё арганізавана. Я б не сказаў, што была такая ўжо дзедаўшчына, але пэўная іерархія прысутнічала: трэці курс — гэта ўжо дзембелі, а першы — духі. Я шчыра лічу, што «хабза» — гэта тры найлепшыя гады ў маім жыцці. Гэта была страшная весялуха.

### Пайшлі ў кулінарны тэхнікум

**«НН»: Як Вас у «хабзу» занесла? Вы ж тэхніку любілі — простая дарога ў РТІ.**

**АК:** Я тэхніку любіў, але на ўзроўні карыстальніка. І цяпер я яе люблю. Капацца ў кішачках прыборчыкаў я таксама любіў — палова дзяцінства прайшла з паяльнікам у руках. Але з узростам цікавасць аслабла. У той час, калі трэба было выбіраць прафесію, мне вельмі падабалася гатаваць. У прынцыпе, падабаецца і сёння. Мы з сябрам пайшлі ў кулінарны тэхнікум, але з намі там нават размаўляць не сталі. Сказалі, каб шукалі сабе мужчынскую прафесію. І мы пайшлі. Я ў той час быў такім ціхім хуліганам — характарыстыка са школы была проста ваўчыная. І мяне з ёй нікуды не бралі.

Мне было абсалютна пляваць, што гэта будзе за прафесія. А паколькі мая старэйшая сястра працавала сакратаркай у ПТВ сантэхнікаў, мы ўсёй сваёй кампаніяй сяброў і панеслі туды заявы. Нас туды адразу ж прынялі, бо, як пасля высветлілася, гэта было перадапошняе ПТВ у рэйтынгу горада. Нашых ніхто не крыўдзіў, усе трымаліся разам. Калі нехта нашага пакрыўдзіў, мы «шашкі нагала» — і ішлі на разборкі.

**«НН»: Калі Вы апошні раз біліся?**

**АК:** Напэўна, тады і біўся. Калі я ў свой час папёрся ў хіпі, то не магу сказаць, што я біўся, але білі мяне часта. У той час усё было не як па-простаму. Ну пабілі, і што? Біцца мне ніколі не хацелася, хаця я адзін час займаўся каратэ. А пасля ўдалбілі вось гэтую заезджаную фразу, што «ты выйграў бой, які не адбыўся».

### П'янкі — гэта толькі сцэна

**«НН»: Ваш сын можа пайсці Вашым жа шляхам?**

**АК:** Ён джыу-джыцу займаецца. Гэта адзінае, што падобна. Музыка яго не вабіць. Ды і добра. У постсавецкіх краінах музыка — гэта не тое, што можна лічыць сапраўднай прафесіяй.

**«НН»: Музыка — гэта не годна?**

**АК:** Я лічу, што гэта годная рэч. Але ў нашай краіне рок-музыка — гэта не той прадукт, які нармальна прадаецца і купляецца. Ненармальна, калі ў нас усяго некалькі гуртоў на краіну, якая не Ліхтэнштэйн.

**«НН»: А ўявіце: Ваш сын заўтра на тыя грошы, што Вы яму падарыце, купляе гітару і пачынае жыць такім ладам жыцця, як і Вы.**

**АК:** Ды калі ласка! Дапамагу, чым змагу. Дзякуй Богу, ёсць чым дапамагчы.

**«НН»: А калі браць не толькі прафесію, але і лад жыцця?**

**АК:** Разумееце, нічога дрэннага ў гэтым ладзе жыцця і не было! Возьмем першыя гады існавання гурту. Зразумела, пастаянныя п'янкі. Але ж яны ва ўсіх былі. Гэта была маладосць. Проста ў нас былі п'янкі пад гітару, у кагосьці былі п'янкі без гітары. Пасля людзі супакоіліся, сем'і з'явіліся, дзеці. Такое ёсць ва ўсіх, музыкі проста больш на публіцы. Гэта не лад жыцця, так проста здаецца. На сцэне, зразумела, разухабістыя, пажартавалі, падрыгаліся, пакрыўляліся, выпілі — і складваецца ўражанне, што мы такія заўжды. Не, гэта проста сцэна, проста адзін канцэрт.

**«НН»: Здаецца, што Вы рамантык.**

**АК:** Так! Я рамантычны, жахліва сентыментальны. Гэта на сцэне я магу пакрыўляцца. А так — люцікі-кветачкі, коцікі.

### Панк-рок мой любімы

**«НН»: Як у Ваша жыццё трапіла музыка?**

**АК:** Яна ў мяне была з ранняга дзяцінства. Колькі сябе памятаю, яна была. Нават калі маленькі быў, сваімі дрыготкімі ручкамі ставіў нейкія пласцінкі, ледзь не «валенкі-валенкі». А пасля пасталела мая старэйшая сястра, у яе з'явіліся хлопцы, і вось тады я ўпершыню пачуў рок-музыку. AC/DC, Kiss — я быў проста ў захапленні. І калі з'явіўся панк-рок, ён запоўніў усё маё жыццё. Гэта мой любімы стыль, на маю думку, самы шчыры і энергетычна зараджаны.

**«НН»: А першы канцэрт? Увогуле, савецкія панк-канцэрты — гэта татальнае пекла.**

**АК:** Наш першы канцэрт адбыўся ўжо ў незалежнай Беларусі — 1991 год. Гарэлка — ракой, ніякіх правілаў. Гэта цяпер усё ўладкавана. А тады — гэта была казка. Было страшна весела, страшна мацерна, страшна брудна, на жахлівай апаратуры. Але было так энергетычна заряджана! Так весела! Свабода! Гэта пасля ўсё больш, і больш, і больш паперак, гайкі падзакручвалі.

**«НН»: Мне заўжды было цікава, як пішуцца тэксты гурту Neuro Dubel.**

**АК:** Я сам не ведаю. Скажу толькі галоўную рэч — тэксты заўжды пішуцца ад прыпеву. Я прыдумваю нейкі радок у прыпеве, які мне падабаецца, пасля прыкідваю, як песня прыблізна будзе гучаць. І ўсё — гэта вось косць, а на якую я хуценька накідваю мяса.

**«НН»: Спрабавалі перакладаць Вашыя тэксты сваім замежным сябрам. Яны казалі, што гэта — проста квінтэсэнцыя панку.**

**АК:** Па-мойму, яны ўспрымаюцца проста як набор словаў, эмоцый. Звязныя тэксты ў мяне не атрымліваюцца. Я не паэт, а менавіта песеннік, пішу менавіта тэксты. У мяне няма вершаў. Чытаць мае тэксты ў выглядзе вершаў — лухта несусветная. Сам бачу. А на музыцы добра.

### У 15 гадоў чалавеку на ўсё пляваць

**«НН»: Год таму Вы казалі, што «Ляпіс Трубяцкой» — найлепшы гурт на рускамоўнай прасторы. А Brutto?**

**АК:** Ведаеце, Сярожа — мой калега, я не магу абмяркоўваць яго і ягоныя рашэнні. Мне, як абсалютна пабочнаму слухачу, тое, што грае гурт Brutto, не падабаецца. Гэта не мая музыка. Але я ўсё роўна лічу, што Сярога — бязмерна таленавіты чалавек, які зможа з гэтага Brutto зрабіць цукерку, нават калі нікому зараз так не здаецца.

**«НН»: Вось той жа Міхалок радыкальна змяняецца, а Вы 25 год з'яўляецеся ўзорам свайго стылю.**

**АК:** У нас даволі разнастайны стыль. У розных альбомах ёсць песні, якія маюць адценне розных стыляў — і вальсу, і рэгі. Але яны аб'яднаныя адной жылкай. Гэта наш стыль, мы сябе знайшлі. І гэта, па-мойму, цудоўна. Большасць папулярных гуртоў граюць менавіта ў сваім стылі і нікуды не рыпаюцца — з джазу ў трэш. Такія гурты вельмі хутка распадаюцца. Мы ж робім эксперыменты ў рамках нашага стылю.

**«НН»: Калі музыкам было лягчэй: 25 гадоў таму ці цяпер?**

**АК:** Гледзячы ў чым. Рэпетыцыйнае памяшканне, музычныя інструменты, магчымасць сябе паказаць — з гэтым працей цяпер. Ёсць інтэрнэт. Але тады таксама было працей сябе паказаць трошкі ў іншым аспекце — было больш тэлевізійных перадач, прысвечаных менавіта року, а таксама радыёстанцый. Усе без выключэння радыёстанцыі круцілі рок-музыку. Зараз гэта нонсэнс. Такіх радыёстанцый не знойдзеш.

**«НН»: А калі быў больш удзячны слухач?**

**АК:** Адназначна ў той час. Тады людзі менш спяшаліся і больш аглядаліся. Хаця тады сітуацыя з лустай хлеба была больш цяжкай, чым цяпер. Але часу аглядацца па баках ва ўсіх было больш. Не так усё было заціснута: гэта цяпер кантракты, працоўныя дамовы і шмат іншых папер. У людзей было больш магчымасці аглядацца, пажыць у жыцці трошкі без даху. Што будзе заўтра? Ай, заўтра будзе заўтра, усё будзе выдатна! А цяпер нават 15-гадовы чалавек думае, што будзе заўтра: як ён здасць іспыты, пойдзе ў ліцэй. Мне ў 15 гадоў было глыбока пляваць і на ліцэй, і на ўсё што заўгодна.

### «Цяпер агрэсар — гэта Расія»

**«НН»: Вы неяк казалі, што Вам цікава піва. Якое любіце больш за ўсё?**

**АК:** «Гінэс» — вось мой самы любімы гатунак. Я нават не ведаю, ці гэта піва. Кожны раз, калі я раблю глыток «Гінэса», у мяне ў галаве толькі адна думка: «Не, гэта не піва, гэта асобны напой». За «Гінэс» — усё, што заўгодна. Акрамя Радзімы.

**«НН»: Вам нецікавая архітэктура, як турысту, як Вы ставіцеся да яе, як жыхар Мінска? Калі, напрыклад, знішчаюцца помнікі гісторыі.**

**АК:** Я ж таксама не кажу, што мяне не цікавіць нічога, акрамя бараў. Канечне, мне цікавыя саборы, замкі, але не так, каб «ваў». Натуральна, мне крыўдна, калі ў Мінску руйнуецца нешта старое. Як увогуле да таго, што руйнуюць нешта старое, можна добра ставіцца? Адна справа, калі руйнуюцца помнікі Леніну. Але нешта такое, у што быў укладзены чыйсьці талент, праца, — тое, што пахне гісторыяй... Чым пахне помнік Леніну? Нічым.

**«НН»: Вы неяк казалі, што ненавідзіце Маскву. У той жа момант у Вашым рэпертуары ёсць песня «Забі амерыканца». Каго не любіце больш?**

**АК:** Адназначна Расію, калі так ставіць пытанне. Па-першае, «Забі амерыканца» — гэта была песня на хвалі майго непрыняцця вайны ў Іраку. Я ніколі не любіў агрэсараў. Цяпер агрэсар — гэта Расія. І мала таго, што агрэсар, яна пагражае свабодзе маёй краіны, жыццю маёй краіны, маіх блізкіх і сяброў. Я лічу так абсалютна шчыра.

**«НН»: Глеб Лабадзенка мне расказваў, што гатовы ісці ў партызаны і пускаць цягнікі пад адхон.**

**АК:** Пры неабходнасці я таксама гатовы.

**«НН»: Добра. Заўтра тут раптам наступае «Русь». Вашы дзеянні?**

**АК:** Сядзець дома за камп'ютарам я дакладна не буду. Калі «Русь праваслаўная» наступіць мірна, і ўсе будуць хадзіць і апладзіраваць, я проста звалю адсюль. Калі я прачнуся, а навокал усё ў стужачках, усе шчаслівыя і давольныя — я чужы на гэтым свяце жыцця. А калі яна наступіць са зброяй у руках і гэта будзе вайна, адназначна трэба змагацца.

Гутарыў Зміцер Міцкевіч

# «Тата»: спектакль Купалаўскага, які ўзрушвае




Я гляджу не 100% рэпертуара Купалаўскага, але каля 85%, і ў маім асабістым рэйтынгу апошніх гадоў спектакль «Тата» заняў першае месца. (На другім — «Вяселле» ці «Беларусь у фантастычных апавяданнях».)

Спектакль — родны, шчымлівы, філасофскі, містычны, з нацыянальным ухілам (даруйце каструбаваты эпітэт). З аднаго боку, паказаны код з беларускай родавай памяці — «бацька, хата, студня». З іншага — гэта не «мужык-беларус» гатунку 1905 года, а авангардная пастаноўка. Дадаць фантастычную сцэнаграфію і выдатную ігру акцёраў — на дзве гадзіны паглыбляешся ў іншы свет.

Як гэта водзіцца ў нас, на такі спектакль было мала рэцэнзій. Прычым на сайце «Будзьма» была адмоўная. Яе аўтар за хвоямі не бачыць лесу. Ён засяроджваецца на другасным: цынкаванае вядро на сцэне занадта новае, мэбля а-ля «Пінскдрэў» правінцыйная, вадкае мыла на вясковым рукамыйніку недарэчнае. Я таго мыла нават не заўважыў, і мне больш да душы Гамлет у выкананні Уладзіміра Высоцкага — у джынсах і ваdалазцы, чым у рэканструяваных строях часоў Шэкспіра. Калі спектакль «зацягвае», дробязь неістотная.

Магічную дзею з сухога тэксту робіць тут сцэнаграфія — праца рэжысёра, аўтара музыкі і галоўнага мастака. Скарыстаны трохэкранны «заднік», на які праектуецца чорна-белае эмацыйнае відэа. Музыка пасуе дзеі, стварае разам з відэа адпаведны настрой. Задзейнічаныя падлога, якая апускаецца, і платформы, што рухаюцца, — і ўсё дарэчы.

У фінальных сцэнах, калі на тры плоскасці праектуецца зорнае неба і запускаецца штучны дым — ствараецца ўражанне, што мы плывём недзе ў космасе, па Зорным шляху...

П'еса Дзмітрыя Багаслаўскага — выдатная. Цешыць, што гэта наш суайчыннік.

Калі глядзеў пастаноўку, мне прыгадаўся твор Андрэя Федарэнкі «Ціша». Там, як і ў п'есе, падымаецца тэма: чаму здараецца, што сваякі становяцца горшыя за чужых.

Тэма «бацька-сын» у спектаклі ўзнятая шчыра і далікатна. Раман Падаляка сыграў сына Сашу арганічна і праўдападобна, што б ні казаў будзьмаўскі рэцэнзент. Аўтар п'есы зрабіў яго вайскоўцам, каб паказаць доўгую адсутнасць дома, але Саша не «салдафон» бяздушны. Роля Таты найгалоўная ў п'есе, і Генадзь Аўсяннікаў таксама грае яе бліскуча.

І яшчэ адзін момант: толькі мы, беларусы, можам ацаніць апавяданне Паўла Касцюкевіча пра ашмянскіх бабулек-кантрабандыстак. Таксама і гэты твор Багаслаўскага блізкі толькі нам, якія жылі штолета на канікулах у драўляных хатах у бабуль і дзядуль і пілі ваду са студняў.

Спектакль не заклікае, не вучыць, што рабіць ці чаго не рабіць. Ён паказвае нам нас.

Спектакль падобны да моцных, але жыццёва небяспечных лекаў. Калі прыняць раз — падзейнічаюць, калі некалькі разоў запар — могуць забіць чалавека. Так і другі (ці трэці) прагляд заб'е ўражанні, застанецца ў душы, як у крытыка, што ў вясковым рукамыйніку непраўдападобна глядзіцца вадкае мыла.

**Глядзеў чытач «НН»**
**Мікола Зайкін**

**«Тата»**

спектакль Купалаўскага тэатра паводле п'есы Дзмітрыя Багаслаўскага «Ціхі шоргат сыходзячых крокаў». Прэм'ера была ў кастрычніку 2014.

Рэжысёр — Кацярына Аверкава (у Купалаўскім ставіла спектаклі «Зіма» і «Офіс»). Дэкарацыі — галоўны мастак тэатра Барыс Герлаван. Музыка — Мацей Сабураў.

Паводле сюжэта, былы вайсковец Аляксандр (Раман Падаляка, Сяргей Рудзэня) вяртаецца пасля смерці бацькі (Генадзь Аўсяннікаў, Генадзь Гарбук) у родную хату. Сёстры Аляксандра хочуць прадаць будынак. Галоўны герой супраць. Аляксандр спрабуе разабрацца, ці любіў яго бацька, які нават пасля смерці прыходзіць да яго ў снах.

**Некалькі словаў пра буфет**

Ён утульны, сталоў шмат. Зялёны чай падаюць у імбрычку — сам падлівай колькі хочаш. Цукар адметны — пакецік удвая большы за звычайныя, фірмовы — радзівілаўскі, і цукар у ім трысняговы, карычневы. Мы бралі глінтвейн за 70 тысяч і зялёную гарбату з лімонам. 50 грамаў каньяку каштуе каля 120 тысяч, гарэлка — 35 тысяч. Бутэрброды 25—40 тысяч. Дзіва што аншлагу ў буфеце не было.

## ВЕРШЫ на асфальце

Міжнародны паэтычны фестываль памяці Міхася Стральцова

**12.02 Чацвер**
Месца: Галерэя «Ў» (пр-т Незалежнасці, 37а)

19:00 Фестывальны пралог.
Інстытут імя Гётэ ў Мінску прадстаўляе вечарыну «Як намаляваць верш».

**13.02 Пятніца**
Месца: Галерэя «Ў» (пр-т Незалежнасці, 37а)

18:00-19:00 Антыпаэзія: вечар празаікаў Школы маладога пісьменніка.

19:00-20:00 «Усход-Захад» /Казахстан, Латвія, Нарвегія/

20:00-21:00 Прэзентацыя кніг беларускіх і ўкраінскіх аўтараў выдавецтва «Крок».

21:00 «Жыццё Марыі»: вечар Сяргея Жадана /Украіна/

**14.02 Субота**
Месца: Галерэя «Ў» (пр-т Незалежнасці, 37а)

15:00-16:40 «Літаратура і мультыкультуралізм. Роля паэта як амбасадара культуры» Дыскусія. /Беларусь, Казахстан, Швецыя /

17:00-17:30 Урачыстае адкрыццё фестывалю.

17:30-19:30 «Вялікае Княства Паэзіі». /Беларусь, Літва, Польшча, Украіна/

20:00-22:00 Паэтычны СЛЭМ: Зборная Беларусі — зборная Украіны.

**15.02 Нядзеля**
Месца: Галерэя TUT.BY (пр-т Дзяржынскага, 57; ст. м. Міхалова)

13:30 – 15:20 Беларускі Калегіюм прадстаўляе: «Літаратура пасля літаратуры. Канец прыгожага пісьменства?» Дыскусія. /Беларусь, Латвія, Украіна/

15:30 – 16:30 Прэзентацыя дэбютных кніг паэзіі.

16:40 – 17:00 Беларускі клімат: «Навязванне» /Беларусь-Швецыя/

17:00 – 20:20 Паэтычны марафон і музычная праграма «Гомельскае метро»
/Беларусь, Латвія, Літва, Нарвегія, Украіна/

20:30 Музычна-паэтычны Джэм

## Сцісла

### Канцэрт Вайцюшкевіча нечакана адмянілі

Выступ музыкі мусіў адбыцца 6 лютага ў клубе «Піраты». Былі атрыманыя ўсе дазволы ад гарадскіх чыноўнікаў, але адміністрацыя ўстановы нечакана вырашыла адмовіць арганізатарам у зале. Замест канцэрта адбылася аўтограф-сесія ў галерэі tut.by.

### Дыктоўка пад Багушэвіча, Багдановіча, Барадуліна

21 лютага міжнародная супольнасць штогод адзначае Дзень роднай мовы. Таварыства беларускай мовы заклікала правесці ў гэты дзень VIII Усебеларускую дыктоўку. Для яе таварыства сёлета выбрала творы Францішка Багушэвіча, Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна.

### Для Android з'явіўся беларускамоўны каталіцкі малітоўнік

Android-праграма створаная пад кіраўніцтвам вікарыя парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі а. Андрэя Сідаровіча. Яе распрацавалі Арцём Баёк, Ціграп Саркісян, над iOS-версіяй працуе Яўген Карачынскі, паведамляе catholic.by. Запуск праграмы спалучыліз запускам сайта мінскай парафіі.

### Прэмію «Залаты апостраф» атрымалі Дубавец, Сільнова і Найдзёнаў

9 лютага ў мінскім бары «ДК» уганаравалі лаўрэатаў літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» — 2014. Лаўрэатамі прэміі, якая адзначае найлепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» за год і праводзіцца ўжо ў дванаццаты раз, сталі: у паэзіі — Людка Сільнова, у прозе — Сяргей Дубавец, у намінацыі «Дэбют» — Мікіта Найдзёнаў. Спецыяльнай прэміяй Алеся Усені за ўнёсак у развіццё літаратуры ўганараваны народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

**ЛМ**

Палеміка

## Захаваць руіны? Так можна застацца нават без руін

**Антон Астаповіч**
пра рэстаўрацыю Касцельнай вежы Навагрудскага замка.

У «НН» №3 з'явіўся артыкул архітэктара Ігара Байцова «У Навагрудку адбываецца капітальны рамонт руіны «пабагатаму» — матэрыял далёка не адназначны, з якім хочацца палемізаваць. Пан Ігар першы агучыў праблему захавання культурнага ландшафту і руін як элемента гэтага ландшафту.

Раней часцей гучалі думкі, што замак трэба аднаўляць цалкам, бо законсерваваныя руіны не дазваляюць адчуць усёй велічы калыскі Вялікага Княства Літоўскага — старажытнага Навагрудка. Гучала ідэя, што, калі замка ў нас няма, яго трэба пабудаваць.

Адразу скажу, што з Байцовым я не пагаджуся. Байцоў не ўзгадаў пра канфлікт, з якім адразу сутыкнуліся праекціроўшчыкі кансервацыі Касцельнай вежы — канфлікт, без вырашэння якога нельга было б яе выратаваць.

А ратаваць яе трэба было неадкладна, бо і апоўзень схілу замчышча, з прычыны вялікай колькасці крыніц у падножжы Замкавай гары, і вымыванне і аслабленне грунтоў, праблема з нестабільнымі падмуркамі, і — паступовае разбурэнне аўтэнтыкі — фасаднай сцяны вежы, усяго, што ад былога фартыфікацыйнага элементу засталося.

Канфлікт тут метадалагічны. Ці мы захоўваем некранутым сфармаваны культурны ландшафт і рамантычныя руіны ў тым выглядзе, да якога мы прывыклі, што прывядзе з часам, і вельмі хутка, да поўнага руйнавання захаваных канструкцый і, адпаведна, да страты таго ландшафту? Ці мы шукаем кампраміснае выйсце паміж захаваннем аўтэнтыкі, яе кансервацыяй і далейшым экспанаваннем і рэгенерацыяй культурнага ландшафту.

Менавіта такім шляхам і пайшлі рэстаўратары. Былі праведзены працы па ўмацаванні схілу замчышча, па ўмацаванні падмуркаў. У сувязі з тым, што сама фасадная сцяна Касцельнай вежы не толькі досыць пагрозліва ўжо адхілялася ад вертыкальнай восі ў бок схілу замчышча, было прынята рашэнне аб мантажы на ёй металічнага бандажу і стабілізацыі сцяны пры дапамозе расцяжак, прымацаваных да яго. Каб мець гарантыю стабілізацыі руіны ў вертыкальнай восі, было прынята рашэнне прыгрузіць астатні перыметр падмурка мураванымі канструкцыямі, за гістарычны модуль якіх была прынята акварэль Напалеона Орды. На жаль, іканаграфіі бакавых сценаў вежы таго часу, калі яны яшчэ існавалі, больш не захавалася.

Захаванне культурнага ландшафту немагчымае без захавання яго элементаў. Усе мерапрыемствы, выкананыя пры праведзенні прац, былі накіраваны на захаванне менавіта на доўгатэрміновае захаванне канструкцый Касцельнай вежы. Хаця праведзеныя мерапрыемствы сапраўды змяняюць некаторыя ландшафтныя рысы.

У гэтай сітуацыі, на маю думку, трэба адштурхоўвацца не ад катэгорыі эстэтыкі, а ад катэгорыі прынцыпаў кансервацыі, якія прадугледжваюць безумоўнае захаванне і абарону ад далейшай дэструкцыі аўтэнтычных канструкцый. А фасадная сцяна вежы, якая выходзіць на касцёл, захавана поўнасцю, і з боку касцёла гэта можна выразна пабачыць.

Увогуле, калі лічыць культурны ландшафт асноўным фактарам, якому патрэбна падпарадкоўваць праведзенне прац па кансервацыі, рэстаўрацыі і аднаўленні помнікаў, то можна далёка зайсці. Паўстае пытанне аб правамернасці рэстаўрацыі рыма-каталіцкай катэдры ў Мінску, якая знаходзіцца, а тады тым больш знаходзілася да аднаўлення Ратушы і Свята-Духаўскай царквы, у кантэксце сталінскай паваеннай архітэктуры. Можна аспрэчыць сам факт рэстаўрацыі Мірскага замка, бо калісьці менавіта рамантычная руіна, як дамінанта, фармавала вакол сябе культурны ландшафт мястэчка Мір...

**Антон Астаповіч, старшыня Рэспубліканскай рады Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры**

# Добраахвотнік

Народны лубок. Піша **Аляксандр Апон.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Асобы:**
Халевіч
Люба — яго жонка
Вольга і Ігар — іх дзеці
Тэледыктар
Лекарка і два санітары

*Кватэра ў шматпавярховым доме. Агульны пакой, абстаўлены такой-сякой мэбляй. На падаконні гаршкі з кветкамі. Адныя дзверы ў вітальню, другія — спальню, трэція — на кухню. На канапе, перад тэлевізарам, сядзіць Люба.*

**Тэледыктар:** ...Прысутнасць на тэрыторыі Украіны расійскіх ваенных запатрабавала растлумачыць канцлер Германіі Ангела Меркель падчас тэлефоннай размовы з Уладзімірам Пуціным...
**Халевіч** *(са спальні)*: Я цябе па-добраму прашу: выключы тэлевізар.
**Тэледыктар:** ...камандзіры апалчэнцаў прызналі, што расіяне насамрэч ваююць на іхнім баку, але гаворка ідзе не пра рэгулярныя часці, а пра добраахвотнікаў, якія знаходзяцца там за кошт уласнага адпачынку.
**Халевіч:** Божа, як можна слухаць гэтую брахню!
**Люба:** Гэта не брахня.
**Тэледыктар:** Пастаянны прадстаўнік Расіі пры АБСЕ ў сваю чаргу заявіў, што Расія не прымае...
**Халевіч:** Добра, хай будзе па-твойму — не брахня, а святая праўда. Толькі ўсё адно выключы.
**Люба:** Не.
**Халевіч:** Ну дык я зараз зраблю гэта сам.
**Люба:** Толькі паспрабуй *(хавае пульт ад тэлевізара за спіну)*.
**Тэледыктар:** «Мы выразна заявілі, што ніякага ўдзелу расійскіх ваенных у канфлікце няма».

*У пакой уваходзіць Халевіч і, акінуўшы позіркам канапу, вырывае шнур ад тэлевізара з разеткі.*

**Халевіч:** Калі ўключыш, выкіну тэлевізар у акно — ты мяне ведаеш: далібог выкіну.
**Люба:** А якая табе справа да таго, што я слухаю? Цябе ўжо няма, ты мяне кінуў.
**Халевіч:** Не прыдумляй, я цябе не кідаў. *(Ідзе ў спальню)*.
**Люба:** А вось кінуў, кінуў! *(Румзае)*.
**Халевіч** *(са спальні)*: От жа, баба!

*Чуваць званок. Люба выходзіць у вітальню, пасля варочаецца з Вольгай.*

**Вольга:** Мама, што здарылася, што з татам, сэрца?
**Люба:** Не, горай.
**Вольга:** Што горай? Паралюш разбіў?
**Люба:** Які там паралюш!
**Вольга:** А што? Ну, кажы!
**Люба:** З глузду з'ехаў!
**Вольга:** Як? Калі?
**Люба:** Не ведаю, але яшчэ ўчора, здаецца, здаровы быў.
**Вольга:** Так. *(Азіраецца)*. Дзе ён?
**Люба:** У спальні.
**Вольга:** Ляжыць?
**Люба:** Не, збіраецца на вайну.
**Вольга:** Божа, на якую вайну?
**Люба:** Ва Украіну.
**Вольга:** Ага, зразумела.

*Са спальні выходзіць Халевіч з заплечнікам у руках.*

**Халевіч:** Ну і што табе зразумела? *(Кідае заплечнік на канапу)*.
**Вольга:** Што мама мае рацыю, ты насамрэч звар'яцеў. *(Цалуе Халевіча ў шчаку)*.
**Халевіч:** Вось табе і на! Ну то дзякую, дачушка, шчыра дзякую!
**Вольга:** Няма за што. Гэта ты з заплечнікам на вайну сабраўся?
**Халевіч:** З ім.
**Вольга:** І што там, калі не сакрэт *(тыцкае заплечнік пальцам)*, выбухоўка?
**Халевіч:** Дзе там.
**Вольга:** А што?
**Халевіч:** Ну — шарсцяныя шкарпэткі, швэдар, зімовая куртка, чаравікі.
**Вольга:** Глянь, дык ты мяркуеш праваяваць там да зімы?
**Халевіч:** Калі не пераможам, што ж — значыць, прыйдзецца.
**Вольга:** Але гэта немагчыма.
**Халевіч:** Чаму?
**Вольга:** Бо цябе заб'юць на другі дзень.
**Люба:** І я яму гэта казала: падстрэляць, як зайца на паляванні.
**Халевіч:** Значыць, гэтыя рэчы дастануцца каму іншаму.
**Вольга:** Ну ўсё, хопіць гэтых жартачак.
**Халевіч:** А скуль ты ўзяла, што я жартую?
**Вольга:** Чакай, дык ты мо і працу кінуў? *(Глядзіць на Любу)*.
**Люба:** Кінуў! Кінуў! *(Ламае рукі)*. Божа, пяць гадоў да пенсіі засталося! *(Наступае на Халевіча)*. Хто цябе, дурань ты стары, цяпер куды возьме, каму ты патрэбны?
**Халевіч:** Ну-ну, цыц, баба, я ведаю, што раблю.
**Люба:** Бачыш, дачушка, як ён мяне трактуе, во да чаго я дажылася. *(Румзае)*.
**Вольга:** Не, а сапраўды, тата, аб чым ты думаў?
**Халевіч:** А што мне думаць? Мяне ж падстрэляць на другі дзень, як зайца на паляванні.
**Вольга:** Так, з табой усё ясна. Ну а мама?
**Халевіч:** Што мама?
**Вольга:** Як яна без цябе будзе?
**Халевіч:** Вядома як — як іншыя без мужыкоў, гэдак і яна. У век...
**Люба** *(румзаючы, да Вольгі)*: Чуеш, што кажа?
**Халевіч** *(да Любы)*: Не перапыняй, калі ласка. *(Да Вольгі)*. Пра што я там пачынаў?
**Вольга:** Нешта пра матчын век.
**Халевіч:** А, дык вось: у яе век *(паказвае пальцам на Любу)*, ужо трэба задумвацца, як жыць без мужыка, які ў любую хвіліну можа выпрастаць ногі.
**Люба:** Я нешта не ўцямлю : цябе паслухаць, ледзь душа ў целе, хоць зараз у дамавіну кладзі, а як на вайну ісці — дык нічога.
**Вольга:** І праўда, тата, як жа ты там, гэткі хворы, ваяваць збіраешся?
**Халевіч:** Я не казаў што хворы, не перакручвайце.
**Вольга:** Як не казаў, калі мы на сваё вушы чулі.
**Люба:** Вось што: ён з нас здекі строіць. Не, я не вытрымаю. *(Бярэцца за сэрца)*. Вой, сэрца!
**Халевіч:** Нічога, пройдзе, кроплі выпі, альбо валідолу пад язык вазьмі. Урэшце, няўжо ўсё жыць будзем і раней ці пазней не давядзецца разлучацца?
**Вольга:** Ага, і ты, тата, вырашыў з гэтым пытаннем не цягнуць.
**Халевіч:** Не, не тое, зусім не тое. Але калі кожны з нас...
**Вольга** *(закрывае ладонямі вушы)*: Усё, усё, маўчы, ведаю, пра што будзеш казаць! Што як рудыя мышы загінем, калі не будзем супраціўляцца, што ніколі не падымемся з каленяў, калі не паўстанем... Тата, родны, я ўжо дваццаць пяць гадоў гэта чую!
**Люба:** А я трыццаць.
**Халевіч:** Хоць сто: для праўды няма тэрміну даўніны.
**Вольга:** Слушна.
**Халевіч:** Я цешуся, што мы паразумеліся.
**Вольга:** Пачакай, яшчэ не зусім. Ты ў нас, вядома, ваяка, маці — плакальшчыца, ну а я хто ў тваёй п'есцы, пра мяне ты падумаў?
**Халевіч:** Я пра цябе думаў, калі ты малая была. Альбо, можа, у школу і інстытут раздзетая і галодная хадзіла?
**Вольга:** Не, ты быў добрым бацькам, любіў мяне.
**Халевіч:** Ты кажаш так, быццам я цяпер цябе не люблю.
**Вольга:** Любіш. Але во толькі ўяві сабе, што са мной станецца, калі прызнаюць, што мой бацька ваюе за Украіну?
**Халевіч:** Нічога не станецца. Гэтак будзеш сядзець, як і цяпер сядзіш у сваёй падатковай інспекцыі, а калі нават тойсёй і гляне коса, дык дзірку не выглядзіць.
**Люба:** А што калі запытаюцца, га?
**Халевіч:** Скажа: дзеці за бацькоў не адказваюць. На благі канец адрачэшся: маўляў, ён мне болей не бацька і ўсё.
**Люба:** Што ты мянціш языком, адумайся!
**Халевіч:** А што такога? Ці ёй першы раз выракацца?
**Вольга:** Вось ты як! Дзякую, тата; я ведала-такі — дакорыш.
**Халевіч:** Але гэта праўда.
**Вольга:** Праўда? Не, гэта няпраўда. Вось я табе зараз скажу праўду. Я, пакуль у школе працавала, была чалавекам другога гатунку. Пачакай, пачакай, не перапыняй... Са мной не віталіся, а калі заходзіла ў настаўніцкую, дэманстратыўна змаўкалі. Ваенрук у вочы называў мяне беларускай сучкай, якую не зашкодзіць павучыць бізуном, каб ведала сваё месца, а дырэктар яму...
**Халевіч:** Дачушка, я ведаю, што табе давялося перацярпець, але ж..
**Вольга:** Не, не ведаеш. Дырэктар казаў: «Ай, адчапіся ад яе, цяўкае тут нешта сваё і няхай сабе цяўкае, нам ад гэтага ні горача ні холадна».

*Чуваць званок*

**Люба:** Гэта Ігар.
**Вольга:** Я адчыню. *(Выходзіць)*.
**Люба:** І яе пакрыўдзіў.
**Халевіч:** Ат, перажыве. А ты, я бачу, усіх на ногі падняла.
**Люба:** Твой сын мае права ведаць.
**Халевіч:** Ага, пад трыбунал мяне аддасць.
**Люба:** Што ты пляцеш?
**Халевіч:** Тое, што думаю.

*Уваходзяць Люба і Ігар у форме маёра міліцыі.*

**Ігар:** Ну, што тут у вас здарылася?
**Люба:** Палюбуйся во на бацьку.
**Ігар:** А што з ім? Дарэчы, здароў, бацька *(паціскае Халевічу руку)* і мама *(цалуе Любу ў шчаку)*. Захварэў ці што?
**Люба:** На вайну сабраўся.
**Ігар:** На якую вайну?
**Люба:** А якая цяпер ідзе?

**Ігар:** Не ведаю, шмат дзе ваююць — у Сірыі, у Іраку.
**Люба:** Не, ён бліжэй — на Данбас.
**Ігар:** Ага, і нябось вось з гэтым заплечнікам.
**Люба:** З ім.
**Ігар** *(узважыўшы заплечнік рукой)*: Цяжкі, бляха. Чым ты яго, бацька, наладаваў: кактэйлямі Молатава, расійскія танкі паліць? Але ж цябе праз мяжу з імі не пусцяць — арыштуюць як піць даць. Ці ты партызанскімі сцежкамі прарывацца сабраўся?
**Халевіч:** Не, сынок, цягнікам паеду.
**Ігар:** А ў заплечніку што, ну, каліся нарэшце?
**Халевіч:** Не бойся, нічога супрацьзаконнага.
**Вольга:** Кажа, швэдар, куртка цёплая, чаравікі.
**Ігар:** Го! Дык ты думаеш, не дасцё расейцам да зімы рады?
**Халевіч:** Мо і не дамо.
**Ігар:** Напэўна, не. Але якая розніца, бо для цябе гэтая вайна нават не пачнецца. А якой гадзіне ў цябе цягнік?
**Халевіч:** Вечарам, а дзясятай.
**Ігар:** Што ж, у такім разе да пабачэння, добрай дарогі!
**Люба** *(пляснуўшы рукамі)*: Сынок, што ты! Як да пабачэння? Якой добрай дарогі?
**Ігар:** А што, мама, калі чалавеку хочацца, хай сабе едзе, пакатаецца. Няўжо ты думаеш, што ён там прыдасца? Вось уявіце сабе: прыедзе бацька ў Кіеў, прыйдзе на майдан і, запыніўшы першага сустрэчнага, запытаецца: «Прабачце, калі ласка, я тут з Беларусі прыехаў, хачу ваяваць за вашую свабоду. Не падкажаце, да каго мне звярнуцца?»
**Халевіч:** Ага, сынок, вось менавіта так, як ты кажаш, і будзе.
**Ігар:** А мінак, вядома, вой як абрадуецца! Маўляў, мы вас ужо даўно чакаем, нам да зарэзу такія дзядзькі трэба.
**Халевіч:** Я, па-першае, не інвалід, а па-другое — не абавязкова страляць.
**Ігар:** Будзеш патроны на перадавую падвозіць.
**Халевіч:** І гэта трэба камусьці рабіць.
**Люба:** Сынок, бацька не дурыцца, ён насамрэч едзе, у яго білет!
**Ігар:** Куды білет?
**Люба:** Да Кіева.
**Ігар:** А работа?
**Люба:** Звольніўся.
**Ігар:** Не можа быць.

*Паўза.*

**Вольга:** Сёння ў нас на рабоце была пяціхвілінка, якая зацягнулася на гадзіну.
**Люба:** І што?
**Вольга:** Сказалі зацягваць паясы.
**Люба:** Куды ж іх яшчэ зацягваць і так ледзь дыхаем?
**Вольга:** Не, яшчэ можна ўціснуцца.
**Ігар:** Чакайце, якія паясы, пра што вы? Вольга, мама, у чым справа? Чаму я пра бацькаў выбрык даведваюся толькі зараз?
**Люба:** А хіба ён з намі раіўся? Чорта лысага! Я сама пра гэта во толькі раніцай пачула. Прачнуўся, паснедаў і кажа: «Я, Люба, на вакзал, па білет». Падумала — жартуе. Але калі пайшоў, патэлефанавала на ўсялякі выпадак на аўтабазу, у аддзел кадраў. Кажуць: «Аён тыдзень як звольніўся». Я думала, сэрца не вытрымае. А яму хоць бы хны: радасны такі заявіўся, білет мне паказвае.
**Ігар:** Ну і дзе той білет?
**Люба:** Адкуль я ведаю, у яго пытайся.
**Ігар:** Бацька, пакажы білет.
**Халевіч:** Нашто ён табе?
**Ігар:** І праўда! Наогул, гісторыя старая і простая, як граблі: бацька вырашыў загінуць па-геройску. Можа, нават пра помнік дзенебудзь каля Марыупаля марыць. Школьнікі будуць прыходзіць, кветкі ўскладаць, мэр прамову скажа. І я б так хацеў. Толькі ў мяне свае дзеці-школьнікі — твае, бацька, між іншым, унукі.
**Халевіч:** І што, што мае ўнукі, яны тут прычым?
**Ігар:** А вось прычым: яны толькі жыць пачалі, а ты ўжо ім...
**Халевіч:** Кар'еру мо ламаю? Таксама міліцыянтамі хочуць быць?
**Ігар:** Так, хочуць.
**Люба:** Хопіць вам ужо, сціхніце!
**Ігар:** Не, мама, пачакай, тут прынцыповае пытанне! Бо мне падаецца, бацька мяне дакарае, што я ў міліцыі служу. А хіба я ў цябе, тата, не пытаўся, ісці мне ў міліцыю ці не?
**Халевіч:** Пытаўся.
**Ігар:** А ты што мне сказаў, га? Што?
**Халевіч:** Сказаў: «Калі хочаш — ідзі».
**Ігар:** Ага, вось!
**Халевіч:** Але ў міліцыю, сынок, а не ў банду.
**Ігар:** Дагаварыўся! Ты нас бандай лічыш?
**Халевіч:** Мала што засталося.
**Ігар:** О як! Ну то дзякую, бацька!
**Халевіч:** На здароўе.
**Ігар:** Не чакаў, далібог не чакаў.
**Халевіч:** Пагодзь, яшчэ не таго дачакаешся.
**Ігар:** Чаго ўжо больш?
**Халевіч:** Ёсць рэзервы. Вось паадчыняеце канцлагеры... справы пойдуць.
**Ігар:** Якія канцлагеры?
**Халевіч:** Пазганяеце туды розных дармаедаў.
**Ігар:** Вунь яно што! Пашкадаваў алкагалікаў, гультаёў, валацугаў?
**Халевіч:** Пашкадаваў, бо ўсім спачуваю, акрамя таўстамордых падлюгаў, якія сядзяць у кабінетах і цяпер з пераляку — а раптам прыйдзецца адказваць, што яны за дваццаць гадоў выседзелі, не лічачы маёнткаў і рахункаў у банках, — прыдумалі, каб ніхто нават пікнуць не насмеліўся, канцлагераў панабудоўваць. І яшчэ: ты моцна памыляешся, калі мяркуеш, што іх гультаі розныя і алкаголікі. Не, яны такім, як я, цуглі прымерваюць, рабацягам, і пакуль да смерці не заездзяць — не злезуць!
**Ігар:** Такі, бацька, свет, ніхто не казаў, што ён справядлівы.
**Халевіч:** Ты яшчэ дадай, што ён такі ад Бога, што гэта Бог так запраектаваў. Ці во, у мацеры запытайся, яна ўсё ў царкву бегае, дык папы там ёй панарасказвалі што да чаго.
**Ігар:** Усё, даволі палітінфармацыі, у мяне на рабоце ад яе галава пухне. Давайце бліжэй да жыцця. Расклад такі: калі даведаюцца (а спецслужбы не спяць у шапку), што мой бацька ваюе на баку бандэрафашысцкай улады, мяне выкінуць з міліцыі. І куды я падамся — хлеб па крамах развозіць?
**Халевіч:** Не такі гэта дрэнны занятак.
**Ігар:** О не, бацька, я маёр, а не шафёр. Больш за тое, я хачу быць палкоўнікам і за гэта пайду на многае.
**Халевіч:** На што менавіта? Можа, выклічаш нарад і пасадзіш мяне на пятнаццаць сутак? За тое, што махаў рукамі і лаяўся матам? Толькі папярэджваю — калі выйду, усё адно паеду, не запыніш. Так што трэба садзіць мяне гады на два. Але за што? Зрэшты, пакумекаўшы, знойдзеш. Патроны можна падкінуць. Гэта лепш за ўсё, апрабавана: два патроны — два гады.
**Люба:** Авой, авой, а што гэта ў нас нарабілася, божа, за што?! *(Хапаецца за галаву).*
**Вольга:** Нічога, мама, пакуль благога, супакойся. *(Абдымае Любу).*
**Люба:** Не, нарабілася, я ведаю. *(Плача).*
**Халевіч:** За грахі, маці, расплачваемся. Так, за іх.
**Ігар** *(задуменна)*: Дык раіш, бацька, падкінуць патроны?
**Халевіч:** А што, неблагі шлях.
**Ігар:** Дзякую за параду, але я зраблю інакш.
**Халевіч:** За спайсы мо пасадзіш?
**Ігар:** І не спадзявайся. А вось выклікаць псіхіятра па хуткай, каб падзвіўся на цябе, бадай, варта.
**Люба:** Сынок! Сынок! Ты што, роднага бацьку ў псіхушку здасі?
**Ігар:** А што, мама, рабіць — ён жа зацяўся, усё адно нас не паслухае.
**Люба:** Але ж яго там залечаць!
**Ігар:** Нічога страшнага. Патрымаюць месяц-два — і ўсё.
**Халевіч:** А добра, сынок, прыдумаў! Калі нават потым і паеду, дык што ж з псіха возьмеш, так? Маладзец! Што таго палкоўніка — ты да генерала даслужышся!
**Ігар:** Хопіць, больш ніякіх размоў. Бацька, апошні раз прашу: адступіся.
**Халевіч:** Не.
**Ігар:** Ну, не наракай. *(Дастае з кішэні мабільнік).* Хуткая?... Трэба тэрміновая дапамога псіхічна хвораму... Не, на ўліку не стаіць.... Вуліца Пушкіна, 43, кватэра 135... Дзякую... Чакаем. *(Хавае мабільнік у кішэнь).*
**Халевіч:** Ага, так. Ну, то зычу вам, дзеткі і табе жоначка, усяго найлепшага. Бывайце. *(Бярэ заплечнік і выходзіць у спальню).*
**Вольга:** Пайшоў.
**Ігар:** Нікуды не дзенецца, пяты паверх.
**Люба** *(сядае на канапу і закрывае далонямі твар)*: Вось і ўсё. Божа!
**Вольга** *(сядае побач)*: Нічога, мама, не ўсё. Яшчэ пажывем, вось пабачыш.
**Люба:** Не, я ведаю, гэта канец.
**Ігар:** Мама, у цябе выпіць штонебудзь ёсць?
**Люба:** Гарэлка, здаецца, недзе была.
**Ігар:** Налі шклянку.
**Вольга:** Дык ты ж за стырном.
**Ігар:** Ай, нічога.
**Вольга:** Я і забылася, што вам усё можна.
**Ігар:** Мама, чуеш, налі кажу!
**Люба:** Ты што, выпіваць пачаў?
**Ігар:** Не пачнеш тут з вамі.
**Люба:** На кухні недзе, зараз пагляджу.

*Люба выходзіць на кухню. Вольга падыходзіць да дзвярэй у спальню і прыслухоўваецца.*

**Ігар:** Ну, што ён там?
**Вольга:** Ціха. Ігар, я баюся.
**Ігар:** Чаго ўжо баяцца.
**Вольга:** Каб не здарылася якой бяды. Можа, адменім выклік, пагаворым з бацькам яшчэ раз?
**Ігар:** Пра што гаварыць, бацьку не ведаеш? Толькі каб па-ягонаму было — і ўсё тут. Дый позна, пэўна едуць ужо.
**Вольга:** Нічога, выбачышся, скажаш, памыліліся, цябе паслухаюць.
**Ігар:** Не.
**Вольга:** Але ж ён нам не даруе, як жыць з гэтым будзем?
**Ігар:** А чаму мы павінны пад яго падладжвацца?
**Вольга:** Бо ён наш бацька і... і мае рацыю.
**Ігар:** Вось як ты думаеш!
**Вольга:** Ігар, пакінь, хай едзе куды хоча.
**Ігар:** Не.
*Уваходзіць Люба і сядае на канапу.*

**Ігар** *(да Любы)*: Наліла?
**Люба:** На стале стаіць, ідзі сам сабе налівай.

*Ігар ідзе на кухню.*

**Люба** *(гледзячы ўслед)*: Праўду людзі кажуць: бяда не ходзіць адна.
**Вольга:** Думаеш, запіў?
**Люба:** А ты не бачыла, як ён на мой дзень нараджэння набраўся?
**Вольга:** Як не бачыла, калі я яго ў таксі садзіла — ніякі быў.

*Чуваць званок у дзверы. Адразу ж з кухні выходзіць Ігар.*

**Ігар:** Я адчыню.

*Ігар выходзіць, затым уваходзіць з лекаркай і двума санітарамі.*

**Лекарка** *(азірнуўшыся)*: Дзе хворы?
**Ігар** *(падышоўшы да дзвярэй спальні)*: Тут. *(Кратае за ручку).* Замкнуўся.

*Чуваць крыкі звонку. Вольга кідаецца да акна і, адчыніўшы яго, выглядае.*

**Вольга:** Мама! Ігар! Людзі! Тата забіўся!
**Ігар:** Як забіўся?
**Вольга:** Выкінуўся з акна.

*Ігар, Вольга, лекарка і санітары бягуць уніз. Люба спаўзае ў непрытомнасці з канапы.*

# Святлана Куль



* * *

Бяры сявеньку, добры гаспадар,
Выходзь у поле, на сваю валоку,
Сівы крумкач прастуе з-пад аблокаў
На твой учора ўзораны папар.
Ідзі па пульхным ворыве і сей,
Ён будзе за табой падлётам, скокам
Ісці раллёй, глядзець празрыстым вокам
І крыжаваць сляды — далей, далей.
Ты для яго як блізкая радня,
З якою не пасварацца ніколі,
Штогод адвеку разам йшлі па полі,
Насеннем напаўнялася сяўня.
З ім разам завіталі на клады.
І да нябёс адужалі сцяжыну,
І вас зямля, нібыта маці сына,
Гукае на вясновыя Дзяды.
Бяры сявеньку, добры гаспадар,
Ідзі і сей пад пільным жоўтым вокам,
Зямля цябе гукае з-за аблокаў,
І крук стары ляцець з табой запар.
Жыццё апошні замыкае круг.
Халодным комінам глядзіць у неба хата.
Ідзе па полі прывідны араты
І след у след за ім — ссівелы крук.

28—30.01.15.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Як танцаваць па-беларуску: у Мінску прайшоў конкурс танцаў «Мяцеліца». У ім бралі ўдзел танцавальныя пары са Слуцка, Полацка, Гомеля, Століна, Лоева, Капаткевічаў, Буда-Кашалёва, Асіповічаў, Мінска і ваколіцаў.**


СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Апошні першы сакратар ЦК КПБ БССР Анатоль Малафееў быў заўважаны на кірмашы для пенсіянераў. Ён прыйшоў туды разам з жонкай. Анатоль Аляксандравіч абышоў амаль усе гандлёвыя кропкі, цікавіўся посудам, перабіраў прыгожыя джэмперы, пастаяў у чарзе ў прымерачную — і ў рэшце рэшт пакінуў ярмарку не з пустымі рукамі.**


КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Расійскія і беларускія байкеры з клуба «Начныя ваўкі» ладзяць «мотапаломніцтва» пад назвай «Белая Русь», яны перадалі ікону прыходу ў Станькаве. Лідар «Начных ваўкоў» Аляксандр Залдастанаў, па мянушцы Хірург, адзін з ініцыятараў стварэння руху «Антымайдан».**



**У Зімбабве загаварылі пра здароўе 90-гадовага прэзідэнта Роберта Мугабэ, які на дадзены момант з'яўляецца самым пажылым кіраўніком дзяржавы ў свеце. Нядаўна, вярнуўшыся з Эфіопіі, Мугабэ выступіў з прамовай у аэрапорце, а потым пачаў спускацца з прыступак і зваліўся проста на вачах ва ўсіх.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Кахаю свайго мужа за магчымасць выглядаць зграбнай.

Сунешся ноччу ў халадзільнік — дулю табе — усё зжэр!

* * *

— Мужчына, мне падаецца, што вы гамафоб і антысеміт!

— Да вы шо! У мяне муж — яўрэй!

* * *

Калі бяжыш па бегавой дарожцы, уяві, што ты ўцякаеш.

* * *

– Адкуль табе вядома столькі вайсковых таямніц?

– Проста я ўжо шмат гадоў працую кіроўцам маршруткі.

* * *

У жанчын вышэйшы балявы парог, таму яны лягчэй пераносяць мужчын і спевы Стаса Міхайлава.

* * *

Калі да доктара Айбаліта прынеслі зайку, якому трамвай адрэзаў лапкі, то доктар прышыў яму новыя.

Увага, пытанне: дзе ён іх узяў?

* * *

Першы прыз у намінацыі «Самы несамастойны чалавек» забрала мама пераможцы.

* * *

– Гэта было цудоўна! Можаце шапнуць мне гэтыя тры словы на вушка яшчэ раз?

– Ваш крэдыт пагашаны.

– О, так!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Абавязываючыя пастановы.** Пад карай да 500 рублёў штрафу або да 3 месяцаў арышту забараняецца як прыватным асобам, так і служачым чыгункі рабіць здымкі на Палескіх чыгунках з рэчаў, якія знаходзяцца на паласе адмежавання.

**«НН». №6. 1915.**

**Суд без Жураўковай.** Былой кіраўніцы справаў прэзідэнта далі чатыры гады. Жураўкова, нягледзячы на сапраўды сур'ёзныя доказы таго, што яна ўчыніла злачынства, вінаватай сябе не палічыла — і, відаць, цалкам шчыра. «Я вінаватая толькі перад адным чалавекам — гэта прэзідэнт», — сказала яна. Цікава, ці дапамагло ёй гэтае прызнанне? Вось жа і калонію для яе падрыхтавалі не ўзмоцненага, а звычайнага рэжыму.

**«НН». №6. 2005.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 10.02.2015.
Замова №503.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614


